 

E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 3 (32) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЛЮТЫ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Высяленне ТБМ

## Вынас рэчаў магчымы 4 сакавіка



«Общественное объединение
«Товарищество белорусского языка имени Ф. Скорины»
*О расторжении договоров аренды*

**В Минском городском исполнительном комитете рассмотрено ваше обращение по вопросу расторжения договоров аренды на нежилые помещения в здании по ул. Румянцева, 13. Необходимость расторжения договоров аренды с 00 «Общество белорусского языка им. Ф.Скорины» и Минской городской организацией 00 «Общество белорусского языка им. Ф.Скорины» вызвана недостатком помещений для размещения жилищно-эксплуатационной службы №12 Партизанского района г. Минска, которая в настоящее время располагается в нескольких зданиях, что значительно затрудняет организацию работы и вызывает жалобы и нарекания жильцов. Перемещение всех специалистов в здание по ул. Румянцева, 13, в котором находится большая часть работников ЖЭСа, позволит скоординировать деятельность его служб и обеспечит более качественное и оперативное обслуживание населения района. В связи с изложенным Мингорисполком считает целесообразным переразместить 00 «Товарищество белорусского языка им. Ф.Скорины» в другом здании. В связи с чем предлагаем вам ознакомиться с перечнем свободных площадей в зданиях городской коммунальной собственности, который ежемесячно формируется в Минском городском центре недвижимости (ул. К.Маркса, 18), и самостоятельно определить возможность использования предлагаемых в нем помещений.**

**Первый заместитель председателя Н.М. Ерохов»**

На гэтым здымку яшчэ можна пабачыць шыльды ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» і Мінскай гарадской арганізацыі ТБМ. Меней чым праз месяц іх здымуць, і ў гэтыя дзверы, звычныя для тысяч сяброў ТБМ, будуць уваходзіць службоўцы жыллёва-эксплуатацыйнай службы ці якой іншай арганізацыі.

Бо нарэшце ТБМ атрымала адказ з Мінгарвыканкама на свой зварот і на сотні лістоў сяброў Таварыства, якія выказваліся за тое, каб сядзіба ТБМ заставалася ў тым памяшканні, якое займала болей за 10 гадоў. Гэты афіцыйны ліст заслугоўвае публікацыі для шырокага азнаямлення. Друкуем згодна з арыгіналам (гл. злева)

Найперш здзіўляе, што адказ на пісьмо, дасланае ў беларускай мове, бесцырымонна напісаны на мове расійскай. Ці ў Мінгарвыканкаме няма ніводнага службоўца, здольнага напісаць ліст па-беларуску, ці, хутчэй, палічылі, што не зашкодзіць дэманстратыўная акцыя непавагі да канстытуцыйных правоў беларускамоўных грамадзянаў, у дадзеным выпадку, супольнасці сяброў Таварыства, і Закону аб мовах. Нічога, маўляў, праглынеце і на чужой мове, вывучайце, калі не ведаеце.

Па-другое, падставы скасавання дамовы арэнды наўрад ці можна лічыць сур`ёзнымі. Знойдзецца надта мала людзей, якія паверацць, што перасяленне некалькіх работнікаў ЖЭС № 12 у два пакоі і адну каморку, якія арандаваў ТБМ, «позволит скоординировать деятельность его служб и обеспечит более качественное и оперативное обслуживание населения района». Зразумела, што лішак плошчы ЖЭСу не зашкодзіць, але тэза пра паляпшэнне якасці абслугоўвання «населения района» – не болей, чым звычная бюракратычная формула, накшталт армейскага «здравия желаем».

Парады паўдзельнічаць у аўкцыёне на арэнду свабодных плошчаў у будынках гарадской камунальнай маёмасці вельмі падобныя на парады лекара, які прапануе беднаму паправіць здароўе на Канарскіх выспах. ТБМ не прадпрымальніцкая і не камерцыйная структура, яна не можа спаборнічаць у аплаце аўкцыёнаў на арэнду з гаспадарчымі суб`ектамі. Ейныя сродкі складаюцца з сяброўскіх унёскаў і добраахвотных ахвяраванняў, якія трэба аддаць за права ўдзельнічаць у аукцыёне. Іншымі словамі, ліст Мінгарвыканкама, абразлівы па форме, ветлівазабойчы і па канструктыўным змесце.

З пункту гледжання чынавенства, якое карыстаецца расійскай мовай нават у адказах на беларускамоўныя лісты, моўная праблема ў краіне вырашана справядліва (гэта значыць, зручна для іх), гэтая справядлівасць нібыта гарантуецца дзяржавай, і ўсялякая дзейнасць у абарону беларускай мовы з боку грамадзян ёсць неабгрунтаваная амбіцыя людзей, якія не разумеюць генеральнай ідэалагічнай лініі на поўнае задушэнне першай дзяржаўнай мовы дзеля непадзельнага панавання другой і намагаюцца сваю мову зберагчы. З прычыны несанкцыянаванай самастойнасці пачуццяў гэтакія суполкі не павінны чакаць ад уладаў рэжыму спрыяльнасці.

Ну, а на ўсе лісты грамадзянаў, звароты да розуму і сумлення, скаргі і жахі, што мова гіне, што працоўныя рэсурсы гадуюцца за беларускія грошы з разлікам карысці для расійскага рынку рабочай сілы і расійскай культуры, дазволена не зважаць, трымаючыся прынцыпу, сфармуляванага Высоцкім: «Если я чего решил, так выпью обязательно». Вось што крыецца за радкамі рускамоўнага мінгарвыканкамаўскага адказу.

 

# Шаноўныя чытачы! Віншуем з Днём св. Валянціна! Мы вас любім!



## «Круглы стол» інтэлігенцыі

**У сакавіку плануецца правесці ў Беларусі «круглы стол» прадстаўнікоў беларускай, украінскай і расійскай дэмакратычнай інтэлігенцыі.**

Пра гэта паведаміў інфармацыйным агенцтвам старшыня грамадскай ініцыятывы «Рада беларускай інтэлігенцыі» Уладзімір Колас. Па яго словах, ужо вызначаны персанальны склад дэлегацыі Украіны, узгадняецца праграма, дата правядзення сустрэчы, а таксама праект звароту ўдзельнікаў сустрэчы. У склад аргкамітэта па падрыхтоўцы «круглага стала» ўвайшлі вядомыя беларускія інтэлігенты, сярод якіх мастак Аляксей Марачкін, пісьменнікі Вольга Іпатава, Генадзь Бураўкін, Алесь Пашкевіч, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна.

**Да 700-годдзя з дня нараджэння ФРАНЧЭСКА ПЕТРАРКІ**

**Беларускі ПЭН-цэнтр**

пры падтрымцы Беларускай асацыяцыі журналістаў, газетаў «Белорусская деловая газета», «Биржа информации», «Барысаўскія навіны», «Брестский курьер», «Витебский курьер», «Вечерний Брест», «Газета Слонімская», «Інтэкс-press», «Местная газета», «Местное время», «Навінкі», «Народная воля», «Наша Ніва», «Наша слова», «Новы Час», «Переходный возраст», «Рэгіянальная газета», «Региональные ведомости», «Телевидинфо», часопісаў «Arche», «Студэнцкая думка», «Дзеяслоў», «Мясцовы час», інтэрнэт-выданняў «Літара.net», «Кнігі.com», «Дзед Талаш», «Пагоня.promedia.by»

**аб'яўляе творчы конкурс для маладых літаратараў:**

**Твор пра каханне**

Да ўдзелу запрашаюцца творцы ад 16 да 22 гадоў (на момант абвяшчэння конкурсу). Лаўрэаты конкурсу будуць запрошаныя на літаратурны семінар і майстар-класы ў сталіцу, дзе перад імі выступяць знаныя пісьменнікі, выкладчыкі ВНУ, вучоныя, спевакі, адбудзецца зацікаўленая гутарка аб творах маладых аўтараў і літаратурнай дзейнасці.

На конкурс прымаюцца літаратурныя творы (вершы, апавяданні, эсэ, п'есы, сцэнары, дзённікі і г.д.)

Да разгляду будуць прымацца творы, дасланыя (паводле даты на паштовым штэмпелі або даты адпраўкі электроннага ліста) не пазней за 15 сакавіка 2004 г. Падвядзенне вынікаў першага тура адбудзецца 25 сакавіка. Літаратурны семінар пройдзе ў Мінску 29 красавіка - 2 мая.

Лаўрэаты леташняга конкурсу імя Наталлі Арсенневай маюць права ўдзельнічаць і сёлета.

Журы конкурсу: Лявон Баршчэўскі (старшыня), Пятро Васючэнка, Ганна Кісліцына, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч.

**Творы дасылайце на адрас: e-mail: pen@pen.unibel.by**

**Паштовы адрас: 220050 а/с 218 Менск**

**РГА «Беларускі ПЭН-цэнтр»**

**Даведкі праз электронную пошту ці тэлефон (017) 288-14-61**

# Эстонія атрымае еўра

У 2004–2006 гадах Эстоніі ў сувязі з яе ўступленнем 1 траўня бягучага года ў ЕС будзе прадастаўлена 15,9 млрд. крон (крыху болей за 1 мільярд еўра) незваротнай еўрапейскай дапамогі. Самыя вялікія інвестыцыі будуць зроблены ў сферах рэгіянальнай і сацыяльнай палітыкі (5,3 млрд. крон), а таксама ў развіццё інфраструктуры і ахову навакольнага асяроддзя (4,3 млрд. крон). На думку экспертаў, дапамога дазволіць краіне прывесці сваю нацыянальную гаспадарку ў адпаведнасць з мінімальнымі стандартамі ЕС. Усяго ж на дасягненне ўзроўню сярэдняга развіцця цяперашніх краінаў ЕС Эстоніі спатрэбіцца, па розных ацэнках, ад 15 да 30 гадоў.

У выніку інвестыцыяў з боку ЕС сельская гаспадарка Эстоніі, якая дасюль лічылася маларэнтабельнай, набудзе прывабнасць для прадпрымальнікаў, у тым ліку з-за мяжы. Асабліва шмат грошай інвестуюць фіны і нарвежцы, якія скупілі дзесяткі гаспадарак у Цэнтральнай і Паўднёвай Эстоніі. А на паўночным усходзе краіны ў развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці вырашыў укласці грошы буйны інвестыцыйны фонд Паўночных краінаў Trigon Capital.

Разам з еўрапейскімі бізнесменамі, нацэленымі на атрыманне прыбытку ў будучыні, у апошнія гады дапамогу з боку ЕС ужо паспелі адчуць на сабе і простыя эстонскія сяляне. Дзякуючы еўрапейскай праграме SAPARD, яны ўжо на працягу некалькіх гадоў могуць, напрыклад, напалову больш танна набываць сельгастэхніку і атрымоўваюць датацыі на прывядзенне сваіх умоваў працы да еўрастандартаў.

Ужо ў 2004 годзе эстонскія сяляне атрымаюць з еўрапейскіх грошай: 110 млн. крон дапамогі на гадаванне малочнага статку; 305 млн. крон агульнай датацыі на сельгасугоддзі; 108 млн. крон дадатковай датацыі на вырошчванне сельгаскультураў; 86 млн. крон дадатковай датацыі на гадоўлю буйной рагатай жывёлы; 170 млн. крон датацыі атрымаюць рэгіёны з неспрыяльнымі сельгасумовамі; 163 млн. крон дапамогі за скарыстанне прыродаахоўных тэхналогіяў сельскай гаспадаркі.

260 млн. крон будуць выдзелены сялянам на прывядзенне гаспадаркі ў адпаведнасць з еўранормамі і 500 млн. крон – у якасці дапамогі праграмы SAPARD.

Болей 1,2 млрд. крон у бліжэйшыя гады будзе ўкладзена ў павелічэнне занятасці ў Эстоніі. Цяпер у краіне болей за 60 тысяч беспрацоўных, для якіх на грошы ЕС прапануецца арганізаваць курсы перакваліфікацыі і стварыць працоўныя месцы. Таксама з моманту ўступлення ў ЕС жыхары Эстоніі змогуць карыстацца прапановамі агульнаеўрапейскай сістэмы пошуку працы EURES, з дапамогай якой можна знайсці сабе працу ў любой краіне ЕС.

У паняцце інфраструктуры ЕС уключае сферы транспарту, аховы навакольнага асяроддзя, інфармацыйных тэхналогіяў і аховы здароўя. Ужо зараз на дарогах краіны вельмі часта можна сустрэць плакаты з надпісам «Будаўніцтва дарогі фінансавалася Еўрапейскім Саюзам». У будучыні ж еўрапейскія грошы будуць укладзеныя не толькі ў аўтамабільныя трасы, але і ў чыгунку, у прыватнасці, у будаўніцтва эстонскага ўчастка трансбалтыйскай вузкакалейнай чыгуначнай лініі Талін–Берлін, якая называецца ў праектных дакументах Rail Baltica.

Каля 1 млрд. крон ужо ў 2004 годзе будзе выдзелена ЕС на абсталяванне ўсходняй мяжы Эстоніі (з Расіяй), каб як мага хутчэй прывесці яе ў адпаведнасць з нормамі Шэнгенскай зоны, пасля чаго стане магчымае поўнае скасаванне ўнутранай мяжы паміж Эстоніяй і іншымі краінамі Еўрасаюза.

*ІА «Росбалт»*

# Літва рыхтуецца стаць фарпостам Еўрасаюза

Да ўступлення Літвы ў Еўрапейскі Саюз застаецца зусім мала часу. Заходнія партнёры з усёй сур'ёзнасцю інспектуюць беларуска-літоўскую мяжу. На працягу двух тыдняў у Літве знаходзіўся міністр унутраных спраў Аўстрыі Эрнст Штрасэр. «Трэба ганарыцца створанай эфектыўна дзейснай сістэмай аховы літоўскай мяжы», – заявіў ён. На сродкі аб'яднанай Еўропы на мяжы з Беларуссю пабудавана пяць пераходаў, абсталяваных сучаснымі сродкамі абароны.

Аднак літоўскі МУС зацікавіўся тым, як на мяжы выконваюцца шэнгенскія патрабаванні. Падчас праверак выявіліся шматлікія выпадкі пропуску праз мяжу без чаргі аўтамабіляў палітыкаў, дэпутатаў Сойму і чыноўнікаў. Калі ўзнікалі хаця б малейшыя затрымкі пры перасячэнні мяжы, палітыкі ці чыноўнікі пагражалі памежнікам вялікімі непрыемнасцямі, звальненнем з працы. Вядомы выпадак, калі абураны палітык папікаў па тэлефоне аднаго з кіраўнікоў Службы аховы дзяржаўнай мяжы тым, што на мяжы яго ніхто не сустрэў кілішкам віскі. Як стасуецца такая практыка перасячэння мяжы з нормамі еўрапейскага права, высвятляе зараз Пракуратура Літвы.

**Кася КАМОЦКАЯ,**
**Вільня**

# Прынцып Пуціна «мачыць у сарціры» робіць тэрор непержитаможным

Зноў жудасны тэрарыстычны акт у Маскве. Зноў дзесяткі бязвінных ахвяраў, зноў кроў, слёзы і гора. Зноў пануе адчуванне забойчай бездапаможнасці. Супраць канкрэтных тэрарыстаў-самазабойцаў – калі гэта сапраўды быў тэрарыст ці тэрарыстка-самазабойца – бяссільныя любыя спецслужбы. Аднак адказнасць за подлы тэракт, за смерць і кроў у Маскве нясуць не толькі тэрарысты.

Паказальная першая рэакцыя на тэракт Уладзіміра Пуціна. Цяперашні і будучы прэзідэнт Расіі адразу ж загаварыў пра «чуму 21-га стагоддзя», заклікаў узмацніць барацьбу супраць глабальнага тэрору, хоць толькі што пачалося следства і, апроч здагадак, няма ніводной падставы канкрэтызаваць прыналежнасць вінаватых. А яшчэ – адмовіў любую магчымасць перамоваў з Масхадавым ці іншымі прадстаўнікамі сепаратыстаў. І мімаходзь зрабіў намёк, што тэрарысты каардынуюць ці сінхранізуюць свае злачынныя дзеянні з заклікамі да перамоваў, якія чуюцца з-за мяжы. Калі трымацца такой логікі, дык застаецца адно – «мачыць у сарціры». З гэтай фразай на вуснах расійскі прэзідэнт прыйшоў да ўлады. Было гэта чатыры гады таму. Што змянілася? Як бачым, роўна нічога!

Першы крок да спынення вайны ў Чачні, да выкаранення чачэнскага тэрарызму павінен палягаць у тым, каб пакончыць з падманам іншых і, галоўнае, саміх сябе. Не выдаваць за свабоднае волевыказванне народа рэферэндум, у ходзе якога за прапанаваную Масквой Канстытуцыю пад дулам аўтамата прагаласавала болей выбаршчыкаў, чым засталося жывых жыхароў ва ўсёй разбамбаванай рэспубліцы. Перастаць рабіць выгляд, што пасаджаны Крамлём на праўленне прэзідэнт Ахмад Кадыраў і былы муфцій Чачні Ахмад-хаджы Кадыраў, які абвясціў джыхад рускім, – гэта два зусім розныя чалавекі. Перастаць верыць пастановачным сусальным карцінкам, якія дэманструюцца дзяржаўнымі тэлеканаламі і жывапісуюць стабілізацыю сітуацыі і нармалізацыю жыцця на чачэнскай зямлі. А калі на экранах тэлевізараў сапраўды не пацёмкінская, а рэальная Чачня, то чаму б не дапусціць туды незалежных журналістаў ды міжнародных назіральнікаў? Сродкі масавай інфармацыі, і асабліва тэлебачанне, на службе ўладам – надзвычай небяспечная рэч. Калі яно вельмі ўжо часта падсоўвае гледачам інсцэніроўку замест рэальнасці, то ў гэтую інсцэніроўку пачынаюць верыць нават тыя, хто яе заказваў.

Першы крок да ўрэгулявання праблемы Чачні палягае ў тым, каб прызнаць: калі Чачня – неад'емная частка расійскай дзяржавы, то і чачэнцы – паўнапраўныя грамадзяне гэтай дзяржавы. І асноўная задача ўлады – абараняць правы кожнага грамадзяніна, будзь ён просты мінак на вуліцы Грознага ці пасажыр маскоўскага метрапалітэна. Не на словах, а на справе змагацца з сапраўднымі тэрарыстамі, а не з мірным чачэнскім насельніцтвам. Чарговае ўзмацненне зачыстак, ваеннага сваволля і рабункаў пасля чарговага тэракта дасюль толькі папаўняла шэрагі смяротнікаў - людзей, якія дайшлі да мяжы адчаю.

Зразумела, значна прасцей падмяняць рэальную палітыку цынічнымі паліттэхналогіямі. Значна прасцей ганьбаваць «міжнародны тэрарызм», чым прызнаць, што Чачня – гэта, у першую чаргу, дамарослая расійская праблема, вынік цэлай чарады недаравальных памылак крамлёўскай улады, і папярэдняй, і цяперашняй.

Урэгуляваць чачэнскую праблему магчыма, толькі скончыўшы падманваць і іншых, і сябе. Інакш зноў і зноў прыйдзецца казаць аб тэрактах, нявінных ахвярах і чалавечым горы. Адным гінуць, іншым жыць у боязі гібелі, а трэцім няспынна «мачыць у сарціры»

**Аляксандр ВАРКЕНЦІН**
*dw-world.de*

# Беларуская эканоміка: ілюзія стабільнасці

***Меркаванні аўтарытэтнага эканаміста пра эканамічны стан краіны***

Пачатак года з'яўляецца лепшым часам для падвядзення вынікаў года мінулага. Па афіцыйных рапартах, беларуская эканоміка быццам бы стабільная і надзейная, нават мае вялікія дасягненні. Ці сапраўды гэта так? Гэтае пытанне мы задалі **Станіславу Багданкевічу.**

**– Станіслаў Антонавіч, якія тэндэнцыі ў мінулым годзе пераважалі ў беларускай эканоміцы?**

– Калі разглядаць афіцыйныя статыстычныя пазіцыі, то назіраецца рост вытворчасці, рост валавага ўнутранага прадукту, зніжэнне ўзроўню інфляцыі, стабілізацыя валюты. Паводле афіцыйных дадзеных, невялікая станоўчая тэндэнцыя прысутнічае па ўсіх паказчыках. Але пры гэтым трэба ўлічваць тып нашай эканомікі, якая не з'яўляецца рынкавай. Гэта эканоміка пад жорсткім дзяржаўным кіраваннем. Таму да гэтых лічбаў трэба ставіцца вельмі асцярожна. Напрыклад, «рост» валавага ўнутранага прадукту. У мінулым годзе ён вырас амаль на 7%, а даходы насельніцтва выраслі менш чым на 2%. Мэта эканомікі - падвышаць узровень жыцця грамадзян, а не проста «даваць больш вугля і сталі», як гэта было за савецкім часам.

**– Пра што гавораць гэтыя дадзеныя? За кошт чаго назіраецца рост вытворчасці?**

– Па-першае – за кошт нескончанай будаўнічай вытворчасці. Трыльёны беларускіх рублёў укладзеныя ў сферу, якая не дае ніякага эфекту: будаўніча-мантажныя працы і абсталяванне, якое не працуе.

Другое – гэта тавары, якія не знайшлі попыту на рынку. Напрыклад, у нас на 5 месяцаў назапашана бытавых гадзіннікаў, амаль 4-месячны запас матацыклаў і г.д. Значная частка ўсёй прадукцыі ляжыць на складах. Гэта тычыцца асобных буйных дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання. Прадукт створаны, аднак грошай за яго не атрымалі. Частка прадукцыі выпрабляецца «з-пад палкі», не грунтуючыся на патрабаваннях рынку. Такой прадукцыі больш чым на 5 млрд. даляраў народных рэсурсаў. Усё гэта ўключана ў валавы прадукт, хоць гэта не адпавядае сусветнай практыцы ацэнкі валавага прадукту. Усюды ўлічваецца прадукт, які атрымаў збыт. З-за нелігітымнасці гэтага паказчыка шмат фікцый і ў астатніх лічбах.

**– У такім выпадку да нашай эканамічнай сістэмы падыходзіць слова «планавая»...**

– Я б сказаў «адміністратыўна-планавая». Наша мадэль эканомікі заснаваная на прэзідэнцкім бізуне, а не на эканамічным інтарэсе. На гэты год прэзідэнт сказаў, каб «далі 10% роста». Дадуць. Можна ж і піраміды егіпецкія будаваць. Будзе рост вытворчасці, заробак, побыт на рынку, нізкае безспрацоўе і г.д. Так можна жыць даволі доўга. Але, у рэшце рэшт, гэта прывядзе да рэгрэсу. Звычайна краіны не становяцца банкрутамі. У Паўночнай Карэі траву ядуць, але валавы прадукт расце...

Галоўны паказчык для разліку валавага ўнутранага прадукту ў Амерыцы - гэта збыт, а не вытворчасць. Валавы прадукт за мінулы год там вырас на 8%, больш чым на 10% вырасла вытворчасць працы. Для мяне дзіўна, чаму пры такіх умовах даляр падае, бо ў Еўропе рост нулявы.

Беларуская эканоміка знаходзіцца на апошнім месцы сярод усіх краін былога СССР, пасля Арменіі, Азербайджана, Казахстана і Расіі. Беларусь і Таджыкістан – дзве апошнія краіны ў СНД.

**– Наколькі можна давяраць афіцыйным лічбам, якімі карыстаецца тэлебачанне і дзяржаўныя СМІ? Ці адпавядаюць яны рэчаіснасці?**

– У нейкай ступені эканаміст павінен імі кіравацца. Шэраговыя супрацоўнікі Статупраўлення, можа быць, усё праўдзіва лічаць. Але тут справа ў метадалогіі. Чаму ў падлікі ўключаюць прадукт зроблены, але не рэалізаваны, мантажныя працы выкананыя, але не ўведзеныя ў эксплуатацыю?

Я з даверам стаўлюся да супрацоўнікаў Нацбанка. Гэта адукаваныя людзі, якія не будуць займацца падлогам пры разліках інфляцыі. Тым не менш, у нас самая высокая інфляцыя і рост цэнаў – 24,5%. У гэтым мы «чэмпіёны». Калі ацэньваць паказчыкі інфляцыі па таварах першай неабходнасці, па кошце камунальных паслугаў, мы ўбачым, што людзі сталі жыць нашмат бядней.

У мяне вялікая кватэра ў прафесарскім доме. Рахунак за камунальныя паслугі ў мінулым месяцы склаў 140 тысяч. Плюс тэлефон, а я яшчэ карыстаюся інтэрнэтам, – гэта яшчэ 60 тысяч. Усяго атрымліваецца больш за 200 тыс. Мне гэта па сілах, а як быць тым, якія маюць пенсію ў 80–100 тысяч. Вось калі б гэтыя паказчыкі былі ў аснове падлікаў, тады можна было б убачыць рэальную сітуацыю з даходамі насельніцтва. Няма рэальных даходаў. Ёсць рэгрэс.

Паводле статыстыкі, інфляцыя ў Беларусі складае 24,5%. Гэта шмат. У суседніх краінах 3–5%, а лепш калі 1–2%. Высокія лічбы інфляцыі азначаюць, што нельга атрымаць крэдыт на жыллё, для прадпрымальніцкай дзейнасці, бо працэнтная стаўка па крэдытах вызначаецца ўзроўнем інфляцыі. Перамагчы інфляцыю – задача першых гадоў перабудовы. Усе перамаглі, а мы што, горш за астатніх? І мы даўно маглі гэта зрабіць.

**– Чаму нашыя тавары даражэйшыя за расійскія?**

– Ёсць шмат фактараў. Адзін з іх – высокія падаткі. Асноўны наш падатак на дадатковую вартасць. Па афіцыйных ацэнках, у 2001 годзе падаткаабкладанне ў Беларусі было на 9 пунктаў вышэй, чым у Расіі. У Расіі вышэй прадукцыйнасць працы, ёсць канкурэнцыя, з-за якой зніжаецца кошт. Мы ўвесь час арыентуемся на Расію. Расія - гэта алігархічная краіна. Расія мае агромнае размежаванне ў грамадстве. Чаму мы ніколі не параўноўваем сваю эканоміку з эканомікай Літвы ці Польшчы?

У Еўропе лічыцца, што калі на харчаванне выдаткоўваецца больш за 30% даходаў – гэта галота. У нас на харчаванне ідзе 80% даходаў, а ў пенсіянераў – дык усе 100%.

Мы маем штучна нізкае беспрацоўе. На заводах і прадпрыемствах трымаецца лішні персанал. Дзяржава павінна была б дапамагчы стварыць эфектыўныя працоўныя месцы, але тут сваю ролю іграе фактар сацыяльнай стабільнасці.



**Станіслаў Багданкевіч, доктар эканамічных навук, прафесар, сябра вучонага савета па абароне дысертацый Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, старшыня наглядальніцкага савета Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў. З 1991 па 1995 год – старшыня праўлення Нацыянальнага банка РБ.**

Я лічу, для таго, каб стварыць працоўныя месцы, трэба на тры гады прадпрымальнікаў вызваліць ад падаткаў, каб з'явіўся абаротны капітал, і грошы ішлі не толькі на спажыванне, але і на набыццё абсталявання, арэнду памяшканняў і г.д. Трэба адмовіцца ад празмернага ўмяшальніцтва дзяржавы ў бізнес у выглядзе кантролю і ліцэнзавання. Дзяржава павінна даць самастойнасць, каб чалавек меў магчымасць шукаць, ствараць, зарабляць.

Па ацэнках амерыканскага фонду «Спадчына», які вызначае ступень эканамічнай свабоды, па гэтым паказчыку на еўрапейскім кантыненце мы знаходзімся на апошнім месцы, разам з Туркменіяй і Таджыкістанам.

**– Яшчэ некалькі год таму на заробак у 100 даляраў можна было жыць месяц. Гэтага хапала, а зараз пражыць на гэту суму даволі цяжка. З чым гэта звязана?**

– Колькі можна купіць на даляр у Амерыцы і колькі на эквівалент даляра ў Беларусі? Калі так параўноўваць, то курс не будзе 2.157, а ўсяго толькі недзе 1.000 рублёў да даляру. У гэтым сэнсе ў нас адбываецца набліжэнне афіцыйнага курсу з рэальным. Трэба рабіць карэктыў на ўзровень цэн, а не на ўзровень жыцця. У эканоміцы даляр каштуе столькі, колькі каштуе. Эканоміка ацэньвае якасць жыцця, якасць паслуг, дарог, сувязі.

Гэта збліжэнне ў многім абумоўлена больш разумнай палітыкай Нацыянальнага банка РБ з канца 2000 года, калі працэнтная стаўка па дэпазітах стала вышэй узроўню інфляцыі. З гэтага часу можна захоўваць грошы ў наяўнасці, не страчваючы іх. У той час як раней трэба было іх абавязкова ў нешта ўкласці, інакш яны гублялі свой кошт. Раней усе ў далярах захоўвалі прыбыткі, а зараз можна і ў рублях. Калі б толькі гэты рубель абапіраўся на здаровую эканоміку. А так ён абапіраецца на гэтыя склады нерэалізаванай прадукцыі.

Я прааналізаваў апошнюю статыстыку і прыйшоў да высновы, што насельніцтва ў Беларусі набывае прадуктаў больш, чым у нас выпрабляецца, прыкладна на 700 мільёнаў даляраў. Мы ганарымся і кажам, што экспарт у нас складае больш паловы нацыянальнага прадукту. А што тут добрага? Мы павінны былі стварыць нацыянальна-арыентаваную эканоміку. Перадусім забяспечыць сябе.

У нас вельмі вялікая залежнасць ад даляру, бо дагэтуль не створана нацыянальная эканоміка. Няма рэформ, кансервуюцца адсталыя прадпрыемствы і неэфектыўная вытворчасць.

**– Калі будзе адзіны рубель з Расіяй?**

– Я спадзяюся, што ў бліжэйшай перспектыве яго ўвогуле не будзе. Але я заўсёды раблю спасылку на тое, што ў нас валютарысцкі рэжым, і, у рэшце рэшт, усё залежыць ад палітычнага рашэння адной асобы. Ва ўрадзе ўжо ўсвядомілі, што пераход на расійскі рубель нявыгадны для Беларусі. Але калі прэзідэнт скажа: «уваходзім як рэгіён», тады мы маглі б прэтэндаваць на датацыі, якія выдаюць бедным расійскім рэгіёнам.

У Расіі больш развіты рынак, дзяржава менш умешваецца ў бізнес, іншыя падаткі. Усё гэта трэба нам рабіць самім. Для чаго нам тады ўваходзіць?

Я супраць уваходу і ў Еўрапейскі Саюз. Ёсць рэчы, якія мы павінны зрабіць самі, калі не хочам стаць адсталым прыдаткам. Для гэта трэба правесці ліберальныя рынкавыя рэформы, стварыць прыязны клімат для інвестыцыі і прыватызацыі, панізіць падаткі, скараціць штат чыноўнікаў, спыніць працу стратных прадпрыемстваў.

Канешне, гэта не робіцца раптоўна і рэвалюцыйна. Хаця б дазволілі эканамістам збірацца і дыскутаваць, распрацоўваць праграмы, абараняць іх ...

**– Зараз мы ўсе назіраем ажыўленне на беларускім палітычным полі. Як вы ставіцеся да стварэння кааліцыі «Пяцёрка плюс», якая будучыня яе чакае?**

– Я цалкам падтрымліваю тэндэнцыю аб'яднанння дэмакратычных сілаў. У «Пяцёрку» увайшлі левыя і правыя з задачай захаваць незалежнасць і ажыццявіць рэфармаванне. Гэта высакародныя мэты. Якімі метадамі і механізмамі – пра гэта будуць спрачацца, калі народу будзе дадзена права вызначаць палітыку. Сёння асноўная задача – атрымаць уладу, каб змяніць сістэму і вярнуцца да дэмакратыі. Таму я цалкам падтрымліваю ідэю аб'яднання на гэтай стадыі падрыхтоўкі да парламенцкіх выбараў. Я лічу, што нейкіх глыбінных супярэчнасцяў у дэмакратычнай эліты няма.

Я цалкам бы падтрымаў любыя заявы нашых палітыкаў аб прэтэнзіях на пост прэзідэнта краіны. Зараз у Амерыцы адбываюцца папярэднія выбары. Чаму б нам не правесці нешта падобнае? Каб нехта заявіў: «Я хачу стаць прэзідэнтам!» Хай не баіцца. Палітык павінен рызыкаваць. Чаму баяцца нашыя талерантныя беларусы? Для мяне гэта не зразумела. Я падтрымліваю «Пяцёрку» таму, што яна дае хоць нейкую альтэрнатыву.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Спакусы для турыстаў









**Нядаўна створаная Асацыяцыя сельскага турызму апрабавала азнаямляльны маршрут «у глыбінку» з мэтай паказаць міжнароднай грамадскасці магчымасці нашай вёскі прымаць цікаўных да вясковага жыцця і адпачынку ў «звычайных умовах» турыстаў.**

У двухдзённай паездцы па прыгожых мясцінах Слонімскага і Пружанскага раёнаў прымалі ўдзел пасол Германіі з жонкай, пасол Літвы з жонкай і дзецьмі, намеснік амерыканскага пасла, магчымыя інвестары. Варта зазначыць, што і ў Германіі, і ў Літве сельскі турызм мае шмат прыхільнікаў і паспяхова развіваецца, станоўча ўплываючы на эканамічную сітуацыю - працоўныя месцы, дадатковыя даходы, за-



даволенне культурных патрэбаў, пашырэнне сферы паслугаў. Гэты турыстычны вояж, якім кіравала старшыня праўлення Асацыяцыі Валерыя Кліцунова, не абмінуў Жыровіцкі манастыр і акадэмію і такія выдатныя помнікі старадаўняй беларускай гісторыі і архітэктуры, як Ружанскі палац Сапегаў, у Косаве - агромністы палац Пуслоўскіх, а побач яго падарожныя паглядзелі пачатак аднаўлення сядзібы, дзе нарадзіўся нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША Тадэвуш Касцюшка. На жаль, Ружанскі і Косаўскі палацы пакуль што могуць выклікаць толькі сумныя пачуцці ад таго, што нішто не вечнае, нават гэтакая мураваная прыгажосць, і ад неразумення чаму ніхто не мае жадання вярнуць да жыцця гэтыя гмахі.

Непасрэдныя «сельскія»назіранні турыстычная выправа змагла зрабіць у сядзібе Верас, якая належыць Міхаілу і Ірыне Макеям, якія, да месца ўзгадаць, шмат паклапаціліся пра аднаўленне Сынкавіцкай абарончай царквы. Гэтыя энергічныя людзі здолелі зрабіць прывабнымі і ўтульнымі і свой дом, і панадворак, і паднялі гаспадарку.

Праграма турыстычнай вандроўкі, апроч знаёмства з гістарычнымі помнікамі, уключала, зразумела, і знаёмства з характэрнымі адметнасцямі беларускага вясковага побыту - у чыстым полі быў забіты і абсмалены кабан, гасцей частавалі свежанінай і традыцыйнымі напоямі нашай вёскі, аматарскай музычнай праграмай і вечарынкай пад гармонік. Іншымі словамі, высокія госці атрымалі ўяўленне пра магчымы прыём у зімовых умовах, аднак няпоўнае, бо не было палявання і паездкі па ваколіцах на санях. Госці, сярод якіх нямецкі і літоўскі паслы дасведчаныя ў сельскім турызме, засталіся задаволеныя і выказаліся, што наш вясковы турызм можа займець шмат прыхільнікаў сярод замежных аматараў такога віду адпачынку.

**Фотарэпартаж Уладзіміра ШЛАПАКА**











# Свет Яўгена Куліка

У Палацы мастацтва працуе персанальная выстава твораў Яўгена Куліка, прысвечаная памяці мастака – два гады таму яго не стала. Экспазіцыя падрыхтавана яго сябрамі па творчай суполцы «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў. «Экспазіцыя ўключае толькі дробную часцінку створанага мастаком у галіне мануальнай графікі сродкамі алоўка, акварэлі, рэтушы, гуашы, сангіны, вугалю і іншых зручных матэрыялаў для хуткага адлюстравання, – гаворыцца ад іх імя ў прадстаўленні глядачам. – Для даследавання творчага шляху мастака стала неабходным уключыць у шэраг твораў выставы нават добра захаваныя студэнцкія малюнкі Я.Куліка. Яны сведчаць пра высокі прафесійны падмурак, на якім вырас яго талент малявальшчыка.

Мастак пакінуў вялікую творчую спадчыну, не расстаючыся з алоўкам і паперай падчас шматлікіх вандровак па родным краі. Дзякуючы свайм серыям замалёвак ён працягнуў рамантычныя традыцыі нашага мастацтва XIX – першай паловы XX стагоддзя, працягнуўшы на сучасным этапе развіцця даследчыя пошукі помнікаў беларускай самабытнасці, гістарычнай велічы, мясцін нацыянальнай памяці, распачатыя Напалеонам Ордай, падтрыманыя і развітыя Пятром Сергіевічам, Язэпам Драздовічам, Лявонам Баразной».

Яго краявідныя малюнкі маюць шырокую вядомасць, набылі пэўную «хрэстаматыйнасць», але няшмат людзей ведае, якая руплівая даследніцкая праца папярэднічала графічным серыям кшталту «Замкі Беларусі». Узнёсласць і духоўнасць творцы, якія адлюстраваныя літаральна на кожным ягоным эскізе, зачароўваюць сваёй сілай. Менавіта таму яго работы набылі сімвалічную вартасць. Яўген Кулік меў вострае пачуццё часу, злучнасці эпох і быў адораны высокім талентам адлюстравання такіх тонкіх высакародных пачуццяў

«Вялікі наватарскі пачатак мастак унёс і ў развіццё сучаснай кніжнай ілюстрацыі 1960–70 гадоў, звязаных з паэмамі «Слова пра паход Ігаравы», «Песня пра зубра» Гусоўскага, паэзіяй Максіма Багдановіча. Іх вобразны характар адрозніваецца не толькі ўдалымі, нестандартнымі кампазіцыйнымі вырашэннямі, выкарыстаннем простых і трапных сродкаў выразнасці, але і невычэрпным адчуваннем гістарычнай праўдзівасці адлюстраванага, выяўленнем нацыянальных вобразаў. Так пераканаўча сфарміраваўся адметны мастацкі стыль Яўгена Куліка, які з'яўляецца прыкладам творчага сумлення, грамадзянскай адказнасці, суровай і аскетычнай гістарычнай праўды. Жыць і тварыць без маны стала яго вышэйшым крэда».

Выстава графікі Яўгена Куліка дазваляе не толькі спасцігнуць духоўны свет адоранага творцы, здзівіцца на яго далёкія далягляды, але і лепш асэнсаваць уласнае месца ў свеце Айчыны.



Хрыстос прызямліўся ў Гародні. Па матывах рамана Уладзіміра Караткевіча



Вялікі князь Віцень



Кірыла, біскуп Тураўскі



Касцёл і кляштар у Іўі



Петрапаўлаўская царква ў Вялікіх Жуховічах

# 10 царкоўных запаветаў для камерсанта

**На мінулым тыдні ў Маскве адбыўся VIII Сусветны рускі народны сабор. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх памесных праваслаўных цэркваў, а таксама дзяржаўныя дзеячы, кіраўнікі расійскіх рэгіёнаў, прадстаўнікі ўрадаў усіх краінаў СНД, навуковая і творчая эліта. Рашэнні сабора непасрэдна закранаюць і Беларусь, паколькі Беларуская праваслаўная царква з'яўляецца экзархіяй (правінцыяй) Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) і падпарадкуецца Маскоўскай патрыярхіі.**

На саборы РПЦ зрабіла беспрэцэдэнтную заяўку на ўдзел у знешняй і нутраной дзяржаўнай палітыцы. З аднаго боку, РПЦ прапанавала стварыць міжнародную ўсеправаслаўную арганізацыю, накшталт Арганізацыі ісламскай канферэнцыі. З другога, прапанавала ўвазе грамадства і ўлады «Звод маральных прынцыпаў і правілаў у гаспадаранні», які адразу ж аматары жартаўлівага слова назвалі «дзесяццю запаветамі камерсанта».

Звод тлумачыць значэнне такіх з'яваў, як беднасць, багацце, нацыяналізацыя, няўплата падаткаў, рэклама і прыбытак. Галоўная мэта зводу «максімальна ўвесці бізнес у публічную сферу: ніхто не будзе судзіць па законах дзяржавы прадпрымальнікаў, але сам прадпрымальнік будзе судзіць сваё сумленне».

Аднак сярод прадпрымальнікаў існуе і не зусім паважнае стаўленне да гэтай ініцыятывы РПЦ: «Царкву саму трэба рэфармаваць, яна закаснела, таму і нараджае такія дзікія ідэі».

Няўплату падаткаў аўтары зводу трактуюць як «крадзеж у сіротаў, старых, інвалідаў, іншых самых неабароненых людзей». «Перадача ў выглядзе падаткаў часткі свайго даходу на патрэбы грамадства павінна ператварыцца з цяжкага абавязку, які выконваецца пад прымусам, а іншым разам зусім не выконваецца, у справу гонару, дастойную ўдзячнасці грамадства», – запісана ў дакуменце.

Беднякі даведаюцца з гэтага зводу, як яны павінны ўспрымаць сваё гораснае становішча: «Бедны ж чалавек мае абавязак дастойна паводзіць сябе, імкнуцца да эфектыўнай працы, павышаючы свой прафесійны ўзровень, каб выйсці з гаротнага стану».

Пра нацыяналізацыю прыватнай уласнасці ў зводзе гаворыцца, што яна «маральна апраўданая толькі тады, калі яе выкарыстанне безумоўна супярэчыць інтарэсам грамадства, пагражае бяспецы і жыццю людзей. Пры гэтым маральна апраўдана законная перадача грамадскай уласнасці ў прыватныя рукі, вынікам чаго павінна быць рэальнае паляпшэнне якасці тавараў і паслугаў, зніжэнне цэнаў, умацаванне эканомікі».

Запаветы прапануецца прымаць добраахвотна. Аднак, тым, хто не прыме і не будзе іх трымацца, пагражае публічнае асуджэнне царквы. Магчыма, патрыярхія будзе друкаваць спісы тых, хто далучыцца да зводу – гэты механізм пакуль што не прапрацаваны.

Немалы інтарэс выказвае царква і да сродкаў масавай інфармацыі. Гэтак, у зводзе ёсць указанне, што «прыватныя СМІ павінны шчыра казаць аб крыніцах, памерах і выдаткаванні сваіх сродкаў». Увага надаецца і глабальным ідэалагічным пытанням. Патрыярх Маскоўскі Аляксій II заклікаў пераасэнсаваць ролю праваслаўя ў сусветнай гісторыі і ў «накрэсленні лёсу чалавецтва». «Выклікі часу натуральным чынам прымушаюць аб'ядноўвацца краіны і нацыі, блізкія па культуры, светапоглядах, духоўнай традыцыі, – патлумачыў ён. – Набіраюць сілу інтэграцыйныя працэсы ў Еўропе. Мусульманскія дзяржавы імкнуцца кансалідаваць свае намаганні на сусветнай арэне. Ці могуць у такіх умовах заставацца раз'яднанымі краіны з шматвечнай праваслаўнай культурай?».

Па ацэнках РПЦ, колькасць праваслаўных хрысціянаў складае сёння 300 мільёнаў, болей за палавіну з іх лічацца вернікамі рускай царквы. «Для Расіі рускі свет – гэта не этнічнае паняцце, – выказаўся на саборы мітрапаліт Кірыл. – Рускі свет уключае ў сябе і ўсе народы, якія належаць да іншых рэлігій, але падзяляюць адны каштоўнасці грамадскага жыцця разам з рускім народам». Прыкладам, татары, якуты і гэтак далей. І тым болей «рускі свет» складаюць праваслаўныя рускамоўныя беларусы.

# Па лепшую долю

Тэндэнцыю на пашырэнне геаграфіі маіх сяброўскіх сувязяў я адзначыла ўжо даўно: з кожным годам няўмольна расце колькасць знаёмых і сяброў, якія з'язджаюць за мяжу. Нямеччына, Швецыя, Бельгія, Канада. Усё паказвае на тое, што ў бліжэйшы час гатова папоўніць дадзены спіс і Нарвегія. Менавіта з гэтай краінай плануе звязаць сваю будучыню яшчэ адна універсітэцкая сяброўка.

Пачатак 2004-га стаўся самым багатым на сустрэчы з маімі ўжо замежнымі беларускімі сябрамі. Пра што можна гаварыць з тымі, каторых бачыш раз на год? Пра што пытаешся ў іх, блізкіх табе людзей, што ўжо некалькі гадоў жывуць далёка ад месца, «игде зродилися и ускормлены суць па бозе»? Зразумела, што нашыя «ўсяночныя» былі поўныя розных тэмаў. Канешне, гаварылі мы і пра тое, чаго не хапае ім тут і што трымае іх там.

Але перад тым, як дазнацца пра тое, чым кіруюцца яны ў сваім выбары, звернемся да цікавых і непасрэдна звязаных з дадзенай тэмай лічбаў, што прапаноўвае нам наша рэчаіснасць.



## Філасофія чыстай вады

Па дадзеных нацыянальнага апытання, якое праводзіў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД), у верасні 2003 года 42,9% рэспандэнтаў выказалі жаданне змяніць сваё месца жыхарства. У Нямеччыну не супраць перасяліцца 13,2%, у ЗША – 7,7%, у Расію – 6,5%, у Польшчу – 4,9... Вялікі працэнт тых, што жадаюць эміграваць, тлумачыцца амаль поўным бязвер'ем беларусаў у паляпшэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі цягам бліжэйшых гадоў (сярод апытаных 80,4%). У 2002 годзе супрацоўнікі НІСЭПД пыталіся і пра тое, ці магчыма ў нашай краіне зрабіць кар'еру. У тым, што гэта магчыма, былі ўпэўнены ўсяго 43,2% апытаных. Цяжка верыцца, што сёння на фоне ўзрослага беспрацоўя колькасць аптымістаў павялічылася. Афіцыйны лік беспрацоўных на 01.01.04. складаў 136.130 чалавек. З іх – 62.361 ва ўзросце 16–29 гадоў. Пра які кар'ерны рост думае гэта моладзь? «Кар'еру» вадзіцеля аўтобуса або касіра – максімум, што ёй можа прапанаваць цэнтр занятасці. Карціну нашага сёння якасна дапаўняе і наступная лічба: 55,1% рэспандэнтаў (верасень 2003 г.) сцвярджаюць, што на практыцы сутыкаліся з парушэннем правоў чалавека. Пазбавіцца ж хібаў нашага грамадства можна! Калі не тут, то там – гэта дакладна ведае той, хто адважваецца з'ехаць у белы свет. Натуральна, што там добра, дзе мы ёсць.

Я не памылюся, калі назаву эміграцыю з Беларусі цалкам інтэлектуальнай. З'язджаюць адукаваныя і дастаткова інфармаваныя пра жыццё за мяжой: моладзь (80% яшчэ студэнты), «гатовыя» спецыялісты, навукоўцы. Фармальна гэтыя людзі не ёсць эмігранты (у тлумачальным слоўніку беларускай мовы 1998 года выпуску чытаем: «Эміграцыя – перасяленне з сваёй краіны ў іншую»): у іхніх дакументах пазначана «ўдзел у маладзёвай праграме», «вучоба», «стажыроўка», «працоўная праграма»і інш. Па дадзеных Дэпартамента па міграцыі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, штогод з Беларусі за мяжу з дадзенай пазнакай выязджае каля 5 тысячаў чалавек (90% – фізічная праца, 10% – інтэлектуальная). Называюць гэта працоўнай міграцыяй. У дадзеным міністэрстве запэўніваюць, што 100% працоўных мігрантаў вяртаюцца на радзіму. Мой жа досвед сведчыць пра іншае. Да прыкладу, амаль усе мае сябры і проста знаёмыя за мяжой вучацца або ўдзельнічаюць у маладзёвых праграмах. Але, заканчваючы навучальную ўстанову або праграму, як правіла, гаворка не ідзе пра вяртанне назад. Паводле старых (новых, на жаль, дастаць не ўдалося) дадзеных Міністэрства ўнутраных спраў, з 1996 года Беларусь пакінула 440 тысячаў яе грамадзян. У цэнтры Маніторынга пры інстытуце сацыялогіі Нацыянальнай Акадэміі Навук гавораць пра большы лік. Гавораць і пра тое, што эміграцыя, асабліва інтэлектуальная, набыла завуаляваныя формы. Тысячы нашых суайчыннікаў там, працягваючы працоўныя кантракты, не губляюць беларускага грамадзянства. Дарэчы, штогод Беларусь пакідаюць 15 дактароў і 35–50 кандыдатаў навук. У звязку з гэтым, як недарэчна прагучала ў кастрычніку 2002 заява прэзідэнта Акадэміі навук спадара Мясніковіча пра тое, што краіны, у якія з'язджаюць беларускія вучоныя, павінны кампенсаваць Беларусі выдаткі на іх падрыхтоўку. А вось 9 студзеня ў сваёй святочнай прамове М.Мясніковіч паведаміў, што дачакаліся мы, нарэшце, часоў, калі нашыя навукоўцы пачалі вяртацца дахаты. Толькі вось у інтэрв'ю «Нашай ніве» доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч не пацвердзіў дадзенай заявы, а каму ж, як не яму, яшчэ і ачольніку Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», ведаць пра гэта. Але не толькі навукоўцам, што маюць статус, там лягчэй рэалізаваць сябе як асобу. Наша моладзь, якая таксама імкнецца за мяжу, робіць падобныя заявы.

Наогул, у свеце, згодна з дадзенымі Міжнароднай арганізацыі міграцы (МАМ), 175 млн. чалавек жывуць па-за межамі краін, дзе нарадзіліся. Атрымліваецца, што кожны 35-ы чалавек на Зямлі – эмігрант.

## Чым намазана

Вось мае субяседнікі:

**Аляксандра**, 26 гадоў. 3 гады жыве ў Нямеччыне. Удзельнічала ў праграме Au-Pair, Сёння – 2-гі курс факультэта Міжнародных адносінаў Франкфурцкага (Майн) універсітэта. Падпрацоўвае ў краме цацак.

**Аляксей**, 26 гадоў. 2,5 жыве ў Швецыі. Ва універсітэце г.Лінчопінга – магістарская праграма, удзел у навуковых даследаваннях, выкладанне на пачатковых курсах.

**Філіп**, 25 гадоў. 2,5 жыве ў Канадзе. Вучыцца ва універсітэце (Рыерсан): Геаграфічныя інфармацыйныя сістэмы. Працуе геадэзістам.

**Вольга**, 26 гадоў. Хутка як 2 гады жыве ў Нямеччыне. Удзельнічала ў праграме Au-Pair, сёння працуе па праграме «Сацыяльны год», плануе паступаць у адзін з нямецкіх універсітэтаў.

Новая хваля беларускай эміграцыі яшчэ не мае там сацыяльнага статусу, яна вымушана працаваць з ранку да вечара, каб зарабляць сабе на хлеб. Маё ж пытанне палягае вось у чым. **Чаму вы ўсё ж выбіраеце выжыванне ў чужым грамадстве, а не на радзіме?**

**Філіп**. На радзіме ў мяне няма ўпэўненасці ў сваёй будучыні.

**Аляксандра**. Сапраўды. Там прасцей у тым плане, што я дакладна ведаю: для мяне цяжкасці выжывання калісьці скончацца – я атрымаю прэстыжную прафесію, а значыць, працоўнае месца з добрай аплатай, і зажыву. Радзіма мне такога не можа гарантаваць. Пасля сканчэння універсітэта (лінгвістычны. – **А.М.**), я працавала ў трох месцах. Грошай хапала толькі на самае неабходнае.

**Аляксей**. Замежжа, гэта і адносная фінансавая незалежнасць.

**Вольга**. Ну, адносная. Я б сказала, поўная незалежнасць. Складана перадаць адчуванне задавальнення, калі не з вёскі цягнеш торбу, а ў вёску. Я шчаслівая, што кожны раз, наведваючы бацькоў, магу даць ім грошы. Няхай невялікія, але ж... Для мяне, прычына матэрыяльнай незалежнасці ўвогуле была першасная.

**Аляксей**. Дарэчы, я заўважыў, што менавіта фінансавая незалежнасць абвастрае ў чалавеку пачуццё адказнасці і кіравання ўласным жыццём.

**Аляксандра**. Што я адказная за кожны свой крок, за кожны пражыты дзень – гэта я і на радзіме добра адчувала. Асноўную ж ролю для мяне, напэўна, сыграла магчымасць бясплатна атрымаць другую вышэйшую, а да гэтага яшчэ і свет пабачыць. Пажыву ў Еўропе, потым, калі бог дасць, у Амерыцы.

**А.М. А там і дадому?..**

**Аляксандра**. Чаму не. Магчыма.

**А.М. А вы?**

**Аляксей**. Да той пары, пакуль буду адчуваць уласную патрэбу, попыт на мае веды і кваліфікацыю там мацней, чым тут, - не... А ўвогуле, фізічная прысутнасць на Беларусі – зусім не галоўнае. Я не губляю кантактаў, ладжу супрацоўніцтва паміж беларускім і шведскім бакамі. Таму і за мяжой я больш карысны для радзімы, чым калі б проста сядзеў у Мінску. А так я знаходжуся там і займаюся тым, да чаго ў мяне больш ляжыць душа, працую і вучуся.

**Філіп**. Я вярнуся, толькі тады, калі на Беларусі зменіцца палітычнае становішча і калі яна стане адной з краінаў еўрапейскай супольнасці.

**Вольга**. Па-першае, мяне за мяжой зараз трымае і асабістае шчасце. Ды і сяброўскае кола наша ўжо амаль усё там. У адным Хесане (зямля на паўднёвым захадзе Нямечыны. - **А.М.**) нашых сяброў ужо больш чым у Мінску. А там хоць раз на тыдзень мы сустракаемся. Колькі разоў мы сустрэліся за той год адпрацоўкі ў вёсках і мястэчках пасля сканчэння універсітэта (Педагагічны універсітэт імя Максіма Танка. - **А.М.**)? Максімум што маглі, дык гэта дазволіць сабе з'ехацца на дні народзінаў. Там больш вольнага часу і магчымасцяў яго правесці разам – гэта было па-другое. А па-трэцяе, там я сябе адчуваю больш чалавекам, чым тут. У аснову тамашняга грамадства ляглі прынцыпы дэкларацыі правоў чалавека. У Еўропе ніхто не адважыцца цябе зняважыць, і не толькі таму, што ведае, чым яму гэта ўсе можа вярнуцца. Проста там іншая культура. Ведаеце, я лепш сцярплю дзяжурную ўсмешку нямецкай прадаўшчыцы, чым агрэсіўны негатыў яе беларускай калегі. Вярнуся я ці не, зараз гэтага я дакладна не ведаю.

**Аляксей**. Сапраўды, у замежжы па-за працай і вузкім колам сяброў: у крамах, у транспарце, у грамадскіх установах – больш прыемнае асяроддзе.

**Філіп**. Як заўважыла Вольга, там сапраўды ёсць добрая магчымасць якасна і цікава правесці вольны час: прынамсі, калі ёсць жаданне, рэальна павандраваць па адной або некалькіх краінах, праблема часу і грашай адпадае.

**А.М. А наколькі працэнтаў атрымліваецца задаволіць свае духоўныя патрэбы? Чым, дарэчы, рэальна займаецеся, калі з'яўляецца вольны час?**

**Філіп**. На 50%. Не ведаю чаму, але я не магу знайсці таго палёту ў жыцці, што меў да ад'езду ў Канаду. Можа, гэта ўзрост, а можа «паветра»?.. Займаюся грамадскай справай у Згуртаванні Беларусаў Канады, спяваю ў беларускім гуртку «Яваровыя людзі», вандрую.

**Аляксей**. Самае галоўнае, каб гэтыя патрэбы былі, тады знойдуцца і шляхі, каб іх задавальняць. У вольны час займаюся ёгай, вучу шведскую і нямецкую мовы, спяваю ў хоры, бяру гітарныя ўрокі, езджу верхам, шмат часу аддаю на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры. Бываю на прыродзе адзін або ладжу вандроўкі з сябрамі. А ў чарзе стаіць яшчэ шмат чаго, на што пакуль не стае часу.

**Аляксандра**. Па-за вучабой і падпрацоўкай ходзім з сяброўкамі ў царкву (дарэчы, як я заўважыла, жыццё ў замежжы вельмі збліжае чалавека з Богам), ладзім культурныя і адукацыйныя праграмы. Я напоўніцу задаволена сваім жыццём там.

**А.М. Да чаго было цяжка прызвычайвацца? З чым цяжка звыкнуцца і па сёння?**

**Аляксей**. Асаблівых праблем не было. Галоўнае – паважаць той народ, да якога прыехаў, не губляючы пры гэтым уласны твар.

**Філіп**. Да смецця на вуліцах і брыдкіх людзей у метро.

**Аляксандра**. Не прывыкла я да іхняй ежы, а таксама і да нямецкага менталітэту.

**А.М. Па сабе ведаю, што замежжа вельмі мяняе людзей. Як яно змяніла вас і ці падабаюцца вам гэтыя змены?**

**Аляксей**. Узрасла павага і цярпімасць да таго, што розніцца з маімі ўласнымі поглядамі. З'явілася пачуццё адказнасці як прадстаўніка сваёй краіны, бо зараз для большасці людзей, што навокал мяне, я – адзіны чалавек з Беларусі, якога яны бачылі ў жыцці.

**Філіп**. Я раблюся свабодным і самастойным.

**Вольга**. Замежжа дапамагло мне стаць больш задаволенай сабой, сваім жыццём, а значыць, я стала больш самадастатковая.

**Высновы**

Ці можна вініць іх у тым, што не жадаюць губляць гады і ўласнае здароўе на барацьбу з часовымі (прынамсі, я ў гэтым упэўнена) «абставінамі»? Яны не згубілі сувязі з радзімай, і ў любы момант гатовы вярнуцца, праўда, у іншую Беларусь. Але вось дзе незадача, хто ж зробіць гэту краіну іншай?

**Вольга:** «Тут застаюцца або самыя моцныя: тыя, што, нягледзячы на ўсе магчымасці з'ехаць, менавіта тут вырашаюць паспрабаваць сябе на выжыванне і абавязкова перамагчы (яны жывуць па прынцыпу, дзе нарадзіліся – там і згадзіліся) – або самыя слабыя»

Становішча ж, у якое трапіла моладзь на Беларусі, мала назваць абсурдным. Старэйшыя кажуць нам: «Чаму вы не робіце сваё жыццё такім, якім жадаеце? Хто вам перашкаджае? Грамадства толькі і чакае ад вас перамог. Вы ж з'язджаеце ў свет і там шукаеце сабе долі».

Але гэтая восень якраз і прадэманструе ўзровень даверу беларускага грамадства да моладзі. Толькі вось ці стане чакаць сама моладзь, пакуль не самая моцная, бліжэйшай восеньскай «вясны»?

**Алеся МАТУСЕВІЧ**

# Уладзімір Караткевіч – памятныя дні

## *Успаміны Міколы Аўрамчыка пра памятныя сустрэчы з Уладзімірам Караткевічам*

**Мікола АЎРАМЧЫК**

Не памятаю, калі я пазнаёміўся з Караткевічам. Але ведаў Уладзіміра з яго юнацкага ўзросту. Добра помню, як увосень, у першыя гады выдання «Маладосці», на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў былі заўважаны і станоўча ацэнены яго вершы. Некаторыя з іх я асабліва запомніў, пра што раскажу трохі ніжэй.

Дома я знайшоў ліст Уладзіміра на тры старонкі вялікага памеру, напісаны характэрным клінапісным почыркам. Ліст адасланы з Оршы 21.XI.56 года. У ім Уладзімір выказвае спачуванне пасля маёй хваробы на тыфус, прывезены з Украіны, і апісвае, як там небяспечна есці садавіну, абмытую вадой з мелкіх студняў або забросnelых стаўкоў.

Уладзімір здзіўляецца, што я не быў на пахаванні Якуба Коласа, бо пад некралогам у газетах першым падпісана маё прозвішча. Ён паведамляе, што напісаў новыя вершы і абяцае хутка выслаць іх. Хваліць «Маладосць», якой яна стала. Дасылае праўкі да некаторых ранейшых рэчаў. Выказвае задавальненне працай на новым месцы, хаця і прызнаецца, што мала загружаны ў школе. Затое рад, што ў яго ёсць магчымасць пісаць. Праўда, шкадуе, што ў Оршы няма сяброў, бо знаёмая моладзь раз'ехалася.

Уладзімір спадзяваецца, што неўзабаве стане на лыжы і з нецярплівасцю чакае, калі з Кіева вышлюць яго стрэльбу. Піша, што ў школе кіруе літаратурным гуртком, з якім выязджаюць на гастролі. Рыхтуе з ім пушкінскі баль-маскарад. Збіраецца ставіць урыўкі з «Паўлінкі» і з «Пінскай шляхты». Просіць паведаміць наконт конкурсу па драматургіі, бо закончыў п'есу з часоў вайны. Паведамляе, што напісаў апавяданне «Памяці вялікага артыста». Але шкадуе, што яно вялікае для «Маладосці». Таксама дапрацоўвае некалькі малых апавяданняў, якія збіраецца прыслаць у наш часопіс. Спадзяецца, што на зімовыя канікулы будзе ў Мінску і мы пабачымся.

На першай старонцы ліста пяром Уладзімір намаляваў сябе з пікай-ручкаю, на фурманцы, што нагружана літаратурнай прадукцыяй і запрэжана крылатым Пегасам. У канверт з лістом укладзены асобны невялікі аркуш паперы, на якім таксама пяром намаляваны кот з вусамі, у шапцы, адзенні і ботах. Зверху яго вялікімі друкаванымі літарамі надпіс для маёй пяцігадовай дачкі: Ірачка, гэта пан Коцкі.

Мяркуючы па ўсім гэтым, мы былі ўжо добра знаёмы з Уладзімірам.

Сярод рэштак фотаархіва «Маладосці», які штомесяц выкідваўся, у мяне ацалелі арыгіналы некаторых сяброўскіх шаржаў на Уладзіміра і некалькі яго фота. Сярод іх рэдкі здымак, які, мабыць, нідзе не друкаваўся і можа толькі захоўвацца ў сямейным фотаальбоме. Відаць, Уладзімір сфатаграфаваны неўзабаве пасля заканчэння Кіеўскага універсітэта.

Малады, прычэсаны і прыгладжаны, як анёл, з універсітэцкім і яшчэ з нейкім значком на абодвух лацканах пінжака, Уладзімір артыстычна сядзіць у крэсле, на падлакотнікі якога смірна паклаў рукі.

Гэты здымак быў пасланы Уладзімірам у рэдакцыю да адабраных для друку ягоных вершаў. Але паколькі вершы не былі надрукаваны, дык і здымак застаўся нявыкарыстаны.

Вышэй я сказаў, што асабліва запомніў некаторыя з яго вершаў, якія адзначаліся на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў, і з тых, што ён прысылаў або прыносіў у «Маладосць». Добра помню таму, што пасля кожнага апошняга і пры наступным яго прыходзе ў рэдакцыю я адчуваў сябе перад ім няёмка і не мог нічога толкам растлумачыць у сваё апраўданне.

У першыя гады выдання «Маладосці» членам яе рэдкалегіі быў адзін з любімых мною паэтаў, блізкі і дарагі мне чалавек – Максім Танк. Ён заўсёды праглядаў усе адабраныя мною для друку вершы. Колькі разоў я ні прапаноўваў яшчэ ў тонкія нумары часопіса вершы Уладзіміра Караткевіча, Максім Танк кожны раз чамусьці адхіляў іх. Прычым, ніколі не тлумачыў, менавіта чаму здымае тую ці іншую рэч. Не ведаю, ці то манера пісьма Уладзіміра не падабалася яму, ці то ён раўніва ўспрымаў падабенства са сваім у літаратурным паходжанні некаторых вершаў маладога паэта. Прычыны такіх паводзінаў Максіма Танка я не разумеў тады, і загадкаю яны застаюцца для мяне да гэтага часу.

Да іншых пачынаючых паэтаў Максім Танк заўсёды быў паблажлівы. Наадварот, з вялікай прыхільнасцю ставіўся да іхніх вершаў, нярэдка падтрымліваючы слабаватыя рэчы. У «Полымі», якое ён рэдагаваў, я таксама працаваў шэсць гадоў і за гэты час не бачыў нічога падобнага.

Вядома, я заўсёды казаў Уладзіміру, чаму яго вершы не надрукаваны. А ён, то спярша з задуменным засмучэннем у вачах і, зморшчыўшы лоб, як любіў гэта рабіць, толькі маўчаў, то раптам ні з таго ні з сяго, са штучным рогатам успрымаў маё тлумачэнне.

Я тады не разумеў гэтага ягонага пераходу ад аднаго стану да другога. Ніжэй я паспрабую растлумачыць гэтую яго рэакцыю.

Толькі ў канцы 1956 года Максім Танк, нарэшце, адобрыў адабраныя мною вершы Уладзіміра Караткевіча «Бацькаўшчына», «Ялінка» і «Рута ў халоднай расе», якія з фотаздымкам іх аўтара пад рубрыкай «Галасы маладых» былі надрукаваны ў першым нумары «Маладосці» за 1957 год. А ў чацвёртым нумары за той год з'явіўся яго верш «Вясна». Гэта ў той час, як у «Полымі» за 1955–56 гады былі ўжо надрукаваны чатыры вершы Уладзіміра Караткевіча.

Між іншым. ніхто з даследчыкаў творчасці Караткевіча не звярнуў увагі на тое, што на працягу першых чатырох гадоў выхаду часопіса для маладых аўтараў у ім не з'яўляліся яго вершы, у той час, як у гэтым выданні ўжо рэгулярна друкаваліся творы паэтаў, на год-два маладзейшых, у прыватнасці, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Алега Лойкі і Петруся Макаля.

Але каб хто-небудзь, крый Бог, не падумаў, што Максім Танк мог адхіляць вершы Уладзіміра Караткевіча з ідэйных меркаванняў, я прызнаюся, што і загадчык аддзела паэзіі, і галоўны рэдактар «Маладосці» сачылі за ідэйнай чысцінёю часопіса пільней, чым член яе рэдкалегіі.

Менавіта за безыдэйнасць у творах Уладзіміра Караткевіча на яго неаднойчы нападалі заўзятыя крытыканы, пачынаючы ад яго землякоў і канчаючы сакратаром ЦК кампартыі па ідэалогіі.

Яшчэ ў першых вершах Уладзіміра яго землякі актыўна пачалі вышукваць безыдэйнасць. У 1957 годзе аршанская газета ў адным з артыкулаў востра раскрытыкавала яго вершы, а пасля яшчэ арганізавала цкаванне маладога паэта ў аглядзе лістоў сваіх чытачоў. Арганізатарам і натхняльнікам крытычнай кампаніі быў рэдактар газеты В.Калібераў.

У адказ на гэтую аглабельную крытыку група беларускіх пісьменнікаў звярнулася ў рэдакцыю «Звязды» з артыкулам, у якім давала належную водпаведзь нападкам на маладога паэта. Я прыгадваю, што той артыкул падпісалі Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін, Сяргей Дзяргай, Янка Казека і я. Андрэй Макаёнак, які добра ведаў В.Каліберава, бо вучыўся разам з ім у партыйнай школе і за чатыры гады да таго ўжо ўвекавіў ягоным прозвішчам аднаго з адмоўных герояў «Выбачайце, калі ласка», таксама ахвотна падпісаўся пад гэтым артыкулам.

У «Звяздзе» спачатку паднялі нас на смех. Маўляў, што вы наважыліся з цяжкой артылерыі біць па вераб'ях. Але ў паводзінах некаторых яе супрацоўнікаў яўна адчувалася нежаданне крыўдзіць аршанскую газету і асуджаць занятую ёй пазіцыю.

Пасля нашых настойлівых патрабаванняў рэдакцыя паабяцала надрукаваць артыкул, але падпісаны толькі трыма прозвішчамі: Анатоля Вялюгіна, Андрэя Макаёнка і маім. Але газета марудзіла і не выконвала свайго абяцання. Таму Янка Казека, галоўны рэдактар дзяржаўнага выдавецтва, у вытворчасці якога ўжо знаходзіўся першы зборнік вершаў Уладзіміра Караткевіча, звярнуўся да паэта-акадэміка Пятра Глебкі з просьбаю стаць трацейскім суддзёю ў гэтай справе. У выніку пад іх двума прозвішчамі ў лютым 1958 года ў «Звяздзе» і з'явіўся артыкул у абарону вершаў маладога паэта.

Я таксама добра памятаю, як на нейкім шматлюдным зборышчы беларускіх пісьменнікаў сакратар ЦК кампартыі па ідэалогіі назваў аповесць Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» нацыяналістычным творам.

Працяг на стар. 8



**У рэдакцыі «Маладосці». Злева направа: Уладзімір Юрэвіч, Міхась Стральцоў, Мікола Аўрамчык, Уладзімір Караткевіч і Васіль Зуёнак. Фота В. Ж.**



**Магнітагорск. Сакавік 1971 г. Злева направа: Уладзімір Караткевіч, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Аляксандр Лазнявы, Алег Лойка і Мікола Аўрамчык.**

# Уладзімір Караткевіч – памятныя дні

Працяг. Пачатак на стар. 7

Але пазней паводле названай аповесці быў зняты мастацкі кінафільм. А яшчэ пазней сам гэты праведнік-ідэолаг пакончыў жыццё самагубствам.

Праўда, у вышэйназваным кінафільме, як і ў іншых, што пазней былі зняты паводле аповесцей і раманаў Уладзіміра Караткевіча, мала чаго заставалася ад задумаў аўтара іх першакрыніцаў. Між іншым, сам ён, калі я цікавіўся толькі што знятым кінафільмам, заўсёды раіў мне: «Лепей не глядзі яго. У ім няма нічога майго».

На самай справе прычынай крытыкі многіх твораў Уладзіміра Караткевіча была глыбоканацыянальная свядомасць іх аўтара. Гэта адразу ж заўважыла чынавенства. Таму верныя паслугачы апошняга заўзята накінуліся на першыя вершы маладога паэта.

Уладзімір Караткевіч - да мазга касцей нацыянальны рамантык, пісьменнік з ухілам гістарычнага паказу побыту і нораваў свайго народу.

У арыгінале аднаго з сяброўскіх шаржаў на Уладзіміра Караткевіча мастак адчуў гэты рамантызм пісьменніка і няхмела паказаў яго. Малады Уладзімір Караткевіч з уздыбленым на ветры гальштукам, усеўшыся на кляновы ліст, лунае ў паветры. Праўда, мастаку трэба было пасадзіць Уладзіміра не на кляновы ліст, а на кілімсамалёт, што болей праўдападобна перадавала б сутнасць творчасці паэта.

У еўрапейскіх краінах пісьменнікі такога кшталту з'явіліся значна раней. Толькі ў гаротных беларусаў, з прычыны пэўных гістарычных абставінаў, з'яўленне гэткага пісьменніка было штучна затрымана пагалоўным вынішчэннем нацыянальнай інтэлігенцыі пасля паўстанняў у дзевятнаццатым стагоддзі, а таксама пасля разгрому беларусізацыі ў трыццатыя гады дваццатага стагоддзя.

Менавіта гэткі пісьменнік мог нарадзіцца толькі ў асяроддзі нашай засцянковай шляхты або ж адукаванай інтэлігенцыі. Высокі інтэлект і глыбокія і шырокія веды нельга набыць за вучнёўскай партаю або за інстытуцкім сталом з нашых абмежаваных і паверхоўных школьных і універсітэцкіх падручнікаў па роднай гісторыі.

Уладзімір пачаў усмоктваць усё гэта яшчэ з малаком маці і прагна засвойваў ад родных і блізкіх людзей, што акружалі яго з маленства. Нездарма ж ён гэтак ганарыўся сваім радаводам, які праз вякі выкалыхваў і перадаваў нашчадкам высакародныя мары, жаданні і памкненні.

Несумненна, Уладзіміру пашчасціла, што пасля школы ён трапіў у Кіеўскі універсітэт, дзе захаваліся нацыянальныя традыцыі. Знаходжанне ў такім асяроддзі паспрыяла яшчэ большаму абвастрэнню і канчатковай загартоўцы нацыянальнай свядомасці.

Таму невыпадкова на кнігі Уладзіміра Караткевіча з прагнай цікаўнасцю накідвалася і накідваецца шматлікая кольказсць чытачоў як з нашай адукаванай інтэлігенцыі, гэтак і з асяроддзя студэнцкай і вучнёўскай моладзі, у якой яго творы выклікаюць нацыянальнае абуджэнне і выхоўваюць нацыянальную свядомасць.

Я ганаруся, што на паліцах маёй бібліятэкі стаіць большасць гэтых кніг са шчырымі сяброўскімі надпісамі аўтара. На тытульнай старонцы славутага рамана «Каласы пад сярпом тваім» Уладзімір напісаў: «Дарагому Міколу Аўрамчыку, даўняму-даўняму другу, чалавеку, які ледзь не першы друкаваў мае вершы. Хлопцу (дзядзьку?), якога вельмі люблю» 8.7.69 Ул.Караткевіч».

А апошнюю прыжыццёвую кнігу сваіх вершаў «Мая Іліяда» паэт падараваў мне з надпісам: «Любаму майму другу, слаўнаму майму чалавеку Міколу Аўрамчыку – ад таго, хто ніколі не падводзіў сяброў і заўсёды ўмеў любіць іх. У дзень яго нага юбілею 14.1.70 Ул.Караткевіч».

Я цытую гэтыя надпісы не толькі дзеля таго, каб пахваліцца імі, але яшчэ і дзеля таго, каб чытачы, якія не бачылі Уладзіміра Караткевіча, зразумелі, што я таксама маю некаторыя падставы дадаць некалькі штрыхоў да яго нага партрэта. Бо падоўгу бываў разам з ім на людзях, у рэдакцыі і ў вандроўках па краіне, удвух з ім бавіў час у яго кватэры і ў пакоях Дамоў творчасці. Бачыў яго непахісна цвёрдым у адстойванні сваіх поглядаў і надзвычай працавітым за пісьмовым сталом. Назіраў за яго шырокай натураю, надзіва здольнаю пераўвасабляцца, і ведаў яго падзіцячы наіўнага і даверлівага.

ванне вуліц пляцоўцы перад сяміпавярховым домам, што насупраць цырка. На большае тады мы не разлічвалі.

Адзін Уладзімір Караткевіч спачатку прапанаваў, а потым горача настойваў на тым, каб помнік Янку Купалу быў узведзены на месцы зруйнаванага манумента Сталіну на Цэнтральнай плошчы Мінска. У той час, напэўна, многія з нас выказаць такую прапанову не адважыліся б.

Прадстаўнік ЦК кампартыі, які праводзіў абмеркаванне, быў шакіраваны прапановаю Уладзіміра. Перад непахісным адстойваннем апошняга сваёй прапановы ён вымушаны быў асцярожна намякнуць, што прапанаванае месца не можа быць занята нікім.

*

Уладзімір быў надзвычай працаздольны. За адзін прысест ён пісаў па некалькі



Мядзельшчына. Восень 1968 г. Злева направа: Алег Лойка, Мікола Пашкевіч, Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін і Уладзімір Караткевіч

**

Памятаю, як з ЦК кампартыі запрасілі нас абмеркаваць, у якім месцы Мінска ўзводзіць помнік Янку Купалу. Было гэта пасля патаемнага ад народу пахавання кіруючым чынавенствам астанкаў паэта, перавезеных з Масквы. Відаць, чыноўнікам хацелася хоць неяк згладзіць непрыемнае ўражанне, якое выклікаў іх ганебны ўчынак сярод пісьменнікаў. Напэўна таму чынавенства і вырашыла правесці гэтае абмеркаванне. Праходзіла яно перад ганкам нядаўна адчыненага тады Літаратурнага музея Янкі Купалы. Удзельнічала ў ім чалавек пятнаццаць, у асноўным старэйшых пісьменнікаў і адказных супрацоўнікаў літаратурных выданняў. Я добра запомніў прапанову Уладзіміра Караткевіча і ўражанне, якое яна зрабіла на мяне і асабліва на прадстаўніка ЦК кампартыі.

Мабыць, не адзін я, але і некаторыя іншыя лічылі тое абмеркаванне тэатралізваным фарсам дзеля адводу вачэй. Тады мы наогул не верылі, што помнікі народным паэтам сапраўды будуць узведзены ў сталіцы Беларусі. Большасць пісьменнікаў прапаноўвалі ўзвесці помнік песняру ў яго скверы. Праўда, адны хацелі бачыць помнік на месцы бюста героя-лётчыку С.Грыцаўцу, што стаяў на самым рагу Купалаўскага сквера, а другія – перад Літаратурным музеем. Хтосьці нават прапаноўваў месца для помніка на супрацьлеглай па дыяганалі праз скрыжастаронак, прычым пісаў начыста, без усялякіх папраўак. Яго нястомная працавітасць і сіла волі да пісання нават у экстрэмальных абставінах здзіўлялі.

Аднойчы я працаваў у каралішчавіцкім Доме творчасці пісьменнікаў, калі туды прыехаў Уладзімір. Тады існавала няпісаная завядзёнка, што кожны прыезджы абавязкова пачатак сваёй працы сімвалічна адзначаў з прыяцелямі ці калегамі, якіх там заставаў.

Пасля вячэры Уладзімір запрасіў у свой пакой Алеся Асіпенку, літоўскага пісьменніка Янiса Радайціса і мяне, каб адзначыць пачатак сваёй працы. Мы сядзелі да поўначы. Размаўлялі пра свае літаратурныя справы. Наш літоўскі калега быў галоўным рэдактарам іхняй літаратурнай газеты. Апошні разам з Алесем апоўначы пайшлі адпачываць. А Уладзімір папрасіў, каб я пабыў яшчэ з ім. Разы два ён гатаваў сабе каву, а мне – чай. Мы сядзелі побач, гутарылі, жартавалі.

І раптам Уладзімір шчыльна прысланіўся плячамі да спінкі крэсла, адкінуўшы на яе сваю галаву. Рукі яго павіслі, як плеці. Напэўна, калі б я не падхапіў яго за плечы, дык ён зваліўся б на падлогу. Я расшпіліў каўнер яго кашулі, зняў з ног чаравікі, збольшага распрануў яго і паклаў у ложак. Уладзімір моцна спаў, раўнамерна дыхаючы.

Я, вядома, спалохаўся, бо сведкаю такога быў упершыню. Праўда, штосьці падобнае аднойчы здарылася і са мною. З Янкам Брылем мы сядзелі побач у першым радзе ў Магнітагорску і глядзелі спектакль. Раптам нечакана мне стала дрэнна. Я толькі адчуў, што Янка расслабіў на шыі мой гальштук і расшпіліў каўнер маёй кашулі. На нейкае імгненне я страціў прытомнасць. Але праз адну-дзве хвіліны расплюшчыў вочы і да мяне паволі вярталася свядомасць. Толькі твар і шыю абдало халодным потам.

А Уладзімір па-ранейшаму спаў моцным сном і раўнамерна дыхаў. Я накрыў яго коўдраю і выйшаў на веранду, зачыніўшы за сабою дзверы. Але не ведаў, што рабіць з уваходнымі дзвярамі з вуліцы. Яны лёгка адчыняліся ад павеву ветру. У Каралішчавічах тады было шмат прыблудных сабак і катоў. Не замыкаць жа Уладзіміра ключом з ганку. Я туга зашчаміў дзверы тонкай галінкаю і пайшоў у свой пакой, што знаходзіўся з галоўнага ўваходу ў сярэдзіне Дома творчасці.

На гадзінніку было дзве гадзіны ночы. Я нават не распранаўся, бо мне было не да сну. Трохі прыдрамнуў і з пятай гадзіны раніцы пайшоў да вуглавога пакоя Уладзіміра. Абодва акны ў гэтым пакоі ярка свяціліся. А я ж, як выходзіў, выключыў святло. Таму я захваляваўся, не разумеючы, што здарылася.

Але ўваходныя з ганку дзверы па-ранейшаму былі туга зашчэмлены галінкаю. Гэта трохі супакоіла мяне. Калі я з веранды пастукаў у дзверы пакоя, Уладзімір бадзёрым гучным голасам выкрыкнуў: «Калі ласка!»

Я ўвайшоў у пакой і аслупянеў ад здзіўлення. Апрануты, Уладзімір сядзеў за сталом і пісаў.

– Валодзя, як ты сябе адчуваеш? – першым чынам запытаў я.

– Цудоўна! – адказаў ён.

Я расказаў, што з ім здарылася ўначы.

– Глупства ўсё гэта! Я ўжо, як бачыш, некалькі старонак накідаў, – радасна адказаў ён.

На стале перад ім ляжала начыста запоўненая клінапісным почыркам верхняя старонка рукапісу.

**

Натура Уладзіміра была з шырокім размахам.

Помню, як наша нешматлікая пісьменніцкая дэлегацыя прысутнічала на ўрачыстым адкрыцці дзён беларускай кнігі ў Маскве. Пасля гасціннай вячэры, якую з гэтай нагоды нам наладзілі гаспадары, мы вярнуліся ў гатэль, дзе размяшчаліся. А Уладзімір Караткевіч з Анатолем Вярцінскім рашылі пагуляць па вячэрняй Маскве. Але паколькі ў той позні час усе пажыўныя месцы заняты прыезджымі і пранікнуць у рэстараны немагчыма, Анатоль назваўся прадзюсерам і перакладчыкам вядомага польскага кінарэжысёра Уладзіміра Караткевіча, якога як замежную славутасць і прадставіў метрдатэлю. Апошні ў такой сітуацыі, вядома, не мог не прапусціць іх у рэстаран. Там яны абодва прынялі дзейны ўдзел у вяселлі ці то афрыканскай князёўны ці то дачкі правадыра нейкага афрыканскага племя і выклалі ўсе свае пенёнзы. Трэба было бачыць іх абодвух, сумных і стомленых пасля тае разгульнае начы.

А ў Маскве нам неабходны было затрымацца яшчэ на дзень-два. Спачуваючы, я спытаўся ў Анатоля, як магло здарыцца такое.

– Мікалай Якаўлевіч, я не ведаў, што ў Караткевіча такая шырокая натура і непрыкметна паддаўся яе ўплыву, – прызнаўся ён.

Пазней, у Мінску, я неадночы чуў, як Уладзімір многім расказваў пра тое злашчаснае вяселле афрыканскай князёўны, як пра свае забаўныя рамантычныя прыгоды. Прычым, расказваючы, настолькі пераўвасабляўся, што ніхто са слухачоў не мог западозрыць, што тыя прыгоды на самой справе былі для яго трагікамічным спектаклем.

Для Уладзіміра, больш чым для каго іншага з нашых пісьменнікаў, характэрна было гэткае пераўвасабленне. Пазней я зразумеў, што адзнакі яго ўжо выяўляліся ў юнацкім рэагаванні Уладзіміра на маё тлумачэнне, чаму яго вершы не надрукаваны ў «Маладосці».

**

Уладзімір любіў бавіць час у нашай рэдакцыі. Можа, таму, што яна была непадалёку, у трох хвілінах хады ад яго кватэры, а магчыма, таму, што ў ёй панавалі дэмакратычныя парадкі, пры якіх яму было дзе расхінуцца на ўсю шырыню сваёй натуры. Аб гэтых яго наведваннях сведчаць некаторыя вядомыя фотаздымкі.

Спачатку Уладзімір падоўгу праседжваў у аддзеле прозы і паэзіі, дзе працавалі мы з Міхасём Стральцовым. А калі бачыў, што пачынае замінаць нам, моўчкі пераходзіў праз разнасцежаныя ў сцяне дзверы ў сакратарыят, да Уладзіміра Юрэвіча і Веры Палтаран. Апошняя не адпускала яго да тае пары, пакуль яны разам не абмяркуюць усе навінкі мастацкай літаратуры.

Але адказны сакратар рэдакцыі Уладзімір Юрэвіч, які быў заняты працаю больш за нас, мог і намякнуць госцю, каб ён не перашкаджаў працаваць. Тады праз другія разнасцежаныя ў сцяне дзверы Уладзімір пераходзіў у аддзел мастацкага афармлення, дзе вёў рэй пляменнік Янкі Купалы мастак Янка Раманоўскі. Тут Уладзімір размаўляў з многімі мастакамі, што наведвалі рэдакцыю. Асабліва хінуўся да Арлена Кашкурэвіча, з якім у яго былі прыязныя стасункі.

**

У апошнее перадпенсійнае дзесяцігоддзе маёй працы ў «Маладосці» Уладзімір часта запрашаў у сваю кватэру на каву мяне з Уладзімірам Дамашэвічам, які тады загадваў у часопісе аддзелам прозы. Бывала, апоўдні патэлефануе:

– Якаўлевіч, ну дык я ўжо чакаю вас абодвух.

Працяг на стар. 10

# Айцец Уладзіслаў Чарняўскі



**Большую частку свайго жыцця айцец Уладзіслаў Чарняўскі пражыў у Вішневе і служыў у гэтым старажытным касцёле. Каля яго айцец Уладзіслаў і лёг на вечны спачын. Некалі Вішнева было прытулкам асветніка Сымона Буднага, духоўным асветнікам тут быў і айцец Уладзіслаў**

Першая мая сустрэча з айцом Уладзіславам Чарняўскім адбылася ў 1995 годзе. Я адпачываў на летніх канікулах у бабулі. Яна доўгі час ужо рыхтавала мяне да першай споведзі. І вось у адну з нядзель мы пайшлі ў вёску Падбярэззе, дзе ў будыніне былога клуба месціцца касцёл, дакладней сказаць, капліца. Я быў малы яшчэ, таму мала што разумеў. Калі скончылася Святая Імша, айцец Уладзіслаў пачаў збіраць у адзін гурток усіх прысутных дзяцей. Сярод гэтых дзяцей апынуўся і я. Святар задаваў нам пытанні пра рай і пекла, пра Бога і чорта... Усе адказвалі па адным. Так дайшла чарга і да мяне.

– Куды папаў пасля смерці Гітлер, у рай ці пекла?

– У пекла.

– Так. А куды папаў Сталін?

– У рай.

– Не, таксама ў пекла.

Гэты адказ мяне вельмі здзівіў і ўразіў. У той час я нічога не ведаў пра рэпрэсіі.

Для таго, каб чытач зразумеў, які быў чалавек айцец Уладзіслаў, нагадаю яго жыццёвы шлях.

Нарадзіўся Уладзіслаў Іванавіч Чарняўскі 14 студзеня 1916 года ў Амброжыне, што на Гродзеншчыне, у сям'і селяніна. Першая сусветная вайна вымусіла сям'ю пакінуць родную хату ў в. Біцяняты на Смаргоншчыне, таму хлопчык нарадзіўся на «чужыне». У 1919 г. яны вяртаюцца дадому. Менавіта ў гэты час будучы святар захварэў на крываўку. Але, незважаючы на хваробу, у 1925 г. Уладзіслаў Чарняўскі ідзе вучыцца. Спачатку хадзіў у польскую школу ў Арлянятах, а затым у Вішнеўцы. У 1929 г. па прапанове доктара Шыманскага, Іван Чарняўскі павёз свайго сына ў гімназію ў Ашмяны. І ўжо ў 1930 г. хлопец, добра здаўшы экзамены, быў туды залічаны. Але з-за недахопу сродкаў на ўтрыманне ён быў вымушаны пакінуць вучобу. У хуткім часе пасля гэтага памёрла маці. Праседзеўшы год дома, Уладзіслаў пайшоў у 5 клас Крэўскай школы. Але і там недавучыўся - перайшоў у Барунскую настаўніцкую семінарыю, дзе прабыў да 1933 г. Пасля семінарыя была зачынена польскімі ўладамі. Спрабаваў ён паступіць і ў школу лётчыкаў у польскім Быдгашчы, але няўдала - не ўзялі з-за слабога здароўя. Пасля, з дапамогай свайго дзядзькі-ксяндза Францішка Чарняўскага, паступіў у пяты клас Друйскай гімназіі, якую скончыў у 1937 г.

У 1938 г. Уладзіслаў Чарняўскі быў залічаны ў навіцыят ордэна марыянаў. Але і тут давялося вучыцца нядоўга - прыйшлося перабірацца ў Вільню, дзе стаў навучэнцам Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. З пачаткам Вялікай Айчыннай вайны пераехаў у Укмерге. У пачатку 1942 г. зноў вяртаецца ў Вільню і працягвае навучанне ў семінарыі.

Нямала перажыў У. Чарняўскі з-за святарскіх свячэнняў, бо Віленскі архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі адмовіўся яго высвячаць. Зрабіў гэта біскуп Мечыслаў Райніс 24 студзеня 1944 г. І ў гэтым жа годзе ўжо ксяндзом Чарняўскі адправіў сваю першую імшу ў Крэве. У канцы 1949 г. ён быў прызначаны пробашчам касцёла Святога Мікалая ў Вільні. Але праз тры месяцы яго адпраўляюць служыць у г. Укмерге, потым у Гегужыне, Ёрнішкі, Варэну, Эйшышкі.

Вярнуўшыся на радзіму, размаўляў з вернікамі і праводзіў службу ў храме па-беларуску. Але ўлады заўжды шкодзілі яму. Айца Уладзіслава доўгі час не хацелі прыпісваць у вёсцы Вішнева, што на Валожыншчыне, куды ён прыехаў працаваць у 1954 г. Неаднойчы забаранялі на некалькі месяцаў служыць.

У 1968 г. па запрашэнні тагачаснага генерала айцоў марыянаў біскупа Часлава Сіповіча а. Уладзіслаў наведаў Рым. У Рыме папа Павел VI зрабіў яго дарадцам святой Кангрэгацыі Абрадаў і даручыў тлумачэнне на беларускую мову Бібліі. А праз 33 гады, 22 снежня 2001 г. Уладзіслава Чарняўскага не стала.

З моманту як мяне хрысцілі прайшло шмат год, але толькі зараз я дазнаўся, што хрысціў мяне айцец Чарняўскі. І я лічу для сябе гэта за гонар. Тым больш, што святара можна параўнаць з такім выдатным сынам Беларусі, як Францішак Скарына. Як і Скарына, Чарняўскі пераклаў на беларускую мову Біблію, не зважаючы на ўсе цяжкасці і перашкоды. Ён прайшоў складаны жыццёвы шлях і ніводнага кроку не саступіў назад. Я лічу, што Уладзіслава Чарняўскага можна і патрэбна паставіць на адной прыступцы з Ефрасінняй Полацкай і Кірылам Тураўскім, Міколам Гусоўскім і Сымонам Будным...

Святар быў адданы сваёй краіне, свайму народу. Ён клапаціўся больш пра іх, чым пра сябе. І мы павінны ўшаноўваць памяць аб такіх людзях. Але, папершае, мы павінны ведаць, што яны зрабілі для Беларусі.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ,**
**Вілейка**



# Не ўратаваў і «нейтралітэт»

## *Лёсы людзей адной заходнебеларускай вёскі ў полымі вайны*

Пра мінулую вайну напісана многа, аднак далёка не ўся праўда вядомая пра падзеі, што адбываліся тады на прасторах Беларусі. Таму заслугоўвае ўвагі публікацыя Алеся Чобата «Над Нёманам і Гаўяй», надрукаваная ў «Новым Часе» № 17 (22). Гэты матэрыял і абудзіў жаданне падзяліцца сваімі ўспамінамі. Дарэчы тут будзе прыгадаць, што Марціросаў (Марцірасян), чый аповед перадае А.Чобат, у свой час выкладаў нам, студэнтам Гарадзенскага пединстытуту марксізм-ленінізм.

Падзеі, пра якія пойдзе гаворка, адбываліся ў маёй роднай вёсцы Доўгая, што ў Шчучынскім раёне, падчас апошняй вайны. Да Нёмана ад вёскі вёрстаў 5–6, да вёскі Мацейчукі, што над рэчкай Лебядой – вёрстаў з 12. За Нёманам у той час гаспадарылі савецкія партызаны, «чырвоныя», як іх у нас называлі, а ў Мацейчуках і ваколіцы – гэтак званая Армія Краёва (АК), акаўцы, «белыя» (польскія і польскамоўныя партызаны). Зусім верагодна, што імі камандаваў згаданы Марціросавым польскі афіцэр Пясэцкі (Сабалеўскі), бо ад Гаўі да Лебяды не так ужо і далёка. Згодна з меркаваннямі Алеся Чобата, свой атрад Пясэцкі прывёў пад Ліду па тылах немцаў (узімку 1943–44 года) аж з Варшавы.

У ваенны час даўжанцы, каб выжыць, прытрымліваліся традыцыйнага для беларусаў нейтралітэту ў адносінах да тых сілаў, што трэслі і раздзіралі наш край. Такая тактыка мала дапамагала, але ж усё-такі неяк уратоўвала. Трымацца ж нейтралітэту было таксама няпроста, бо віхура вайны зацягвала ў свае віры людзей. Ад вёскі ў радыусе амаль 6–7 кіламетраў не было ні нямецкіх гарнізонаў, ні лагераў партызан. Але начамі ў вёску заходзілі савецкія партызаны, што перабіраліся ад чыгункі да чыгункі з-за Нёмана ці з намерам папоўніць свае харчовыя запасы, днём – акаўцы, калі-нікалі – немцы са Шчучына. Усе імкнуліся ўцягваць сялян-вяскоўцаў у свае шэрагі.

Першым і адзіным вяскоўцам, які стаў паліцэйскім яшчэ недзе ў 1942 годзе, быў Болесь Клімовіч – малады хлопец гадоў дваццаці. А праз год з нечым ён перайшоў да акаўцаў. Аднойчы з групай сваіх паплечнікаў Клімовіч апынуўся ў садзе на ўскрайку Шчучына, у летнім дамку садоўніка. А тут якраз ішоў паўз на службу фарсісты немец-афіцэр, казалі потым – сам шчучынскі камендант. Надта ж спакуслівым аказаўся яго браўнінг, і немца абяззброілі ды на гора сабе адпусцілі. Той падаўся ў камендатуру, падняў на ногі сваё ваярства. Акаўцаў схапілі, а праз які тыдзень расстралялі. Гэта, мабыць, адзіны выпадак у нашай мясцовасці, калі адбыўся крывавы канфлікт паміж немцамі і акаўцамі.

Затое даволі актыўна і на гора вяскоўцам канфліктавалі паміж сабою «чырвоныя» і «белыя». Іх разборкі забралі нямала сялянскіх жыццяў. Ад рук немцаў за акупацыю загінула ў вёсцы 5 чалавек, акаўцы забілі 16, савецкія партызаны – 2.

У сваёй хаце позняй восенню 1943 года ноччу былі расстраляныя Місевічы (бацька, 16-гадовая дачка і 14-гадовы сын). У тую ж ноч на хутары каля лесу была выбіта, а потым спалена ва ўласнай хаце сям'я Блюднікаў (гаспадар Іосіф, яго жонка Вольга, іх дзіця ў калысцы, брат Іосіфа Міхаіл, іх маці). Непадалёку ад Блюднікаў, таксама на хутары, у тую ж крывавую ноч былі застрэлены Жанчук Іосіф і яго дарослы сын Хведар. Па сведчанні суседзяў, у тую крывавую ноч спачатку ў Жанчука, а потым у Блюдніка гасцявалі чацвёра савецкіх партызан, адзін з іх Зубель, вясковец. Прыехалі на конях. Як наляцелі «белыя», уцяклі.

Забіты былі акаўцамі Дрозд Іосіф і Алішэўскі Павел. Ужо вечарам вярталіся на падводзе з млына, ехалі на падпітку. А тут ліха нанесла акаўцаў, учынілі допыт, нешта не спадабалася...

Застрэлены быў у сваёй хаце на хутары Сухоцкі Іосіф, а заадно і яго стары сваяк, які тут заначаваў. Відаць, каб сведкі не было. Сын Сухоцкага быў у савецкіх партызанах. Ахвярамі «белых» сталі Качан Браніслаў і яго сын (жылі на хутары, побач з вёскай Карсакі), а таксама дачка, якая была замужам у вёсцы Навасёлкі ля Нёмана. Ад рук акаўцаў загінуў фельчар Зубель Іван, які бескарысліва лячыў аднавяскоўцаў.

Прытрымлівацца нейтралітэту вяскоўцам станавілася ўсё цяжэй. І вось недзе напачатку 44-га сем хлопцаў падаліся да «белых» з надзеяй, што такім чынам уратуюць сваіх родных, а заадно і вяскоўцаў ад расстрэлаў.

Такім чынам, у немцаў служыў адзін даўжанец, у савецкіх партызанаў – 5, у акаўцаў – 7. Быў выпадак пераходу ад «чырвоных» да «белых». Перабежчык-Зубель, па папярэдняй дамове, «здаў» заадно сваім новым гаспадарам трох сваіх таварышаў. Усе чатырох не пайшлі ноччу на сваю базу за Нёман, а задняваліў ляску (у гаі) ля Доўгай. Тут іх і схапілі акаўцы. Аднаго з іх – Чарнюка (даўжанца) – расстралялі, лёс двух невядомы. Век перабежчыка аказаўся кароткім: купаючыся ў Лебядзе, утапіўся. Не даравалася яму звыш здрада таварышам.

А вясковец Дрозд Іван вясной 44-га аказаўся ў батальёне Барыса Рагулі. Ён вучыўся на трэцім курсе Шчучынскай настаўніцкай семінарыі. Калі ж у красавіку немцы семінарыю зачынілі, а ў яе будынку размясцілі шпіталь, ён з некалькімі сваімі сябрамі паступіў у Навагрaдскую семінарыю. Вельмі ж хацелася завяршыць вучобу і атрымаць дыплом настаўніка. Але неўзабаве і гэта вучэльня была зліквідавана, а семінарыст Дрозд стаў кавалерыстам. Праўда, усяго на некалькі месяцаў, але і гэтага хапіла, каб потым патрапіць у Варкуту. Пасля сыходу немцаў скончыў Гарадзенскую педвучэльню і настаўнічаў.

У 1949-ым быў асуджаны на 25 гадоў зняволення, пакаранне адбываў у варкуцінскім ГУЛАГу. Рэабілітаваны ў 1956 годзе, вярнуўся ў Доўгую, але працаваць настаўнікм не дазволілі. Служыў на пошце, пражыў нядоўга: здароўе і сілы забрала турма.

Вось такім пакручастым было жыццё людзей гэтай заходнебеларускай вёскі падчас апошняй вайны. Тры сілы панавалі тут, канфліктавалі між сабой за права гаспадарыць у вёсках і цэлых рэгіёнах . А цярпелі ад гэтага бязвінныя простыя беларусы, якія не ўмелі і не ведалі, як пастаяць за сябе, за свой край.

**Іван ЗДАНОВІЧ,**
**Пружаны**

# Уладзімір Караткевіч – памятныя дні

Працяг. Пачатак на стар. 7,8

А «Маладосць» жа, у адрозненне ад «Полымя», пачынала працу не а 14 гадзіне, а апоўдні. Таму ў гэты час сама што прыходзілі наведвальнікі ў нашы аддзелы.

– Валодзя, – адказваю я, – дык у нас жа сядзяць аўтары.

– Ну, добра, тады прыходзьце па адным, змяняючы адзін аднаго, – не адступаў ён.

Звычайна мы так і рабілі. Першым да яго ішоў той, у каго перад сталом не сядзеў наведвальнік. А праз гадзіну-другую вяртаўся і на замену яму рушыў другі.

З Уладзімірам цікава было пасядзець, пагутарыць. Асабліва паслухаць яго роспаведы пра даўнія падзеі нашай гісторыі, пра беларускую шляхту, пра яе побыт, звычаі і норавы. Мала таго, каб сказаць, што веды ў яго былі энцыклапедычныя, усебаковасць, шырыня і глыбіня іх здзіўлялі.

Памятаю, як мы сядзелі з ім, а да яго ўпершыню прыехаў прадстаўнік Мсціслаўскага райвыканкама і прасіў Уладзіміра напісаць гістарычны нарыс пра Мсціслаўшчыну. Трэба было бачыць, як Уладзімір абрадаваўся гэтай просьбе. Ягоная маці Надзея Васільеўна нарадзілася ў Мсціславе.

Я тады падумаў сам сабе: «Як добра, што менавіта да такога аўтара, а не да звычайнага газетчыка звярнуліся з просьбаю раённыя кіраўнікі». А заадно мне таксама прыемна было распытаць у іхняга прадстаўніка сёе-тое пра гэты гістарычны горад, у якім па волі лёсу я правёў самую жахлівую другую дзесяцідзёнку вайны і адкуль, нарэшце, разам з мясцовымі жыхарамі трапіў у армію.

Тады ні Уладзімір, ні я не прадбачылі, што ён напіша цудоўны гістарычны нарыс пра гэты край. Шкада толькі, што савецкая цэнзура пакрамсала па-жывому выданне гэтай кнігі.

Аднойчы Уладзімір расказаў мне, як ён з вучэбнай вінтоўкаю ў руках, разам з нашымі вартавымі, па дняпроўскай кручы канваіраваў нямецкіх палонных. Яго роспавед узрушыў мяне. Я так і ўявіў сабе цыбатага Уладзіміра-юнака ды яшчэ не з баявой, а з вучэбнай вінтоўкаю ў руках. Так у мяне напісаўся прысвечаны яму верш «Ты ж знаеш, як паэзію – у прозе і прозу – у паэзіі знайсці».

Бывае, сядзім у яго кватэры, а ён возьме дый патэлефануе ў Акадэмію навук сваёй жонцы Валянціне Браніславаўне:

– Валя, ведаеш, хто ў мяне сядзіць зараз?..

Скажа, хто, і перадасць мне тэлефонную трубку.

– Мікола, як я рада, што вы наведалі Валодзю. Калі вы сядзіце разам, я спакойна за яго. Затрымайцеся, калі ласка, пачакайце, пакуль я прыйду з працы.

Я адчуваў, што абодва яны рады нашай сустрэчы. Напэўна, і мяне яны лічылі калі не іхнім сватам, дык шаферам-дружком. Бо ў свой час Янка Брыль не раз і не двойчы вазіў мяне з Уладзімірам Караткевічам у Брэст да свайго сябра, вядомага крытыка і літаратуразнаўцы Уладзіміра Калесніка. Там мы сустракаліся са студэнтамі і выкладчыкамі педагагічнага інстытута, у якім працавалі Уладзімір Калеснік і Валянціна Браніславаўна. Там мы і пазнаёміліся з апошняю. А трохі пазней яна выйшла замуж за Уладзіміра Караткевіча і пераехала ў Мінск.

**

Часам Уладзімір быў па-дзіцячы наіўны і даверлівы. Помню, як Усесаюзнае бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР запрасіла дэлегацыю беларускіх пісьменнікаў наведаць буйныя прамысловыя прадпрыемствы Урала.

Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка, Іван Навуменка, Уладзімір Паўлаў і я самалётам ляцелі з Масквы ў Чалябінск. Мы з Уладзімірам Караткевічам сядзелі ў крэслах побач. А з другога боку яго, каля ілюмінатара, сядзела незнаёмая жанчына.

Як бывае ў дарозе, мы ўтраіх зрэдку перакідваліся словамі.

Увечары, падлятаючы да Чалябінска, Уладзімір прызнаўся, што тут яго павінна сустрэць родная сястра.

– Гэта добра, – пазайздросціла суседка, якой з Чалябінска яшчэ трэба было ехаць далей і яна не ведала, ці ўдасца ёй уладкавацца на ноч у незнаёмым горадзе.

Я чуў, як Уладзімір з дзіцячай наіўнасцю паабяцаў суседцы, што яна зможа пераначаваць у яго сястры.

У аэрапорце, калі мы выйшлі з самалёта, сястра Уладзіміра Наталля Сямёнаўна з мужам Іванам Мікалаевічам сустрэлі брата, які пазнаёміў нас з імі. Я таксама чуў, што Уладзімір сказаў сястры, што трэба ўладкаваць на ноч незнаёмую жанчыну, якая сядзела з ім па суседстве ў самалёце.

Наталля Сямёнаўна абурылася. Маўляў, не паспеў адляцець ад жонкі, як ужо ў дарозе заводзіць знаёмствы.

Мне было шкада наіўнавата-шчырага Уладзіміра. Я спачуваў яго даверлівай суседцы і разумеў насцярожанасць Наталлі Сямёнаўны.

І па-свойму ніхто з іх не быў вінаваты.

**

Шчырасць і наіўная даверлівасць характэрны для нашага брата-пісьменніка. Часам праз яе трапляеш у непрыемнае становішча, у якім аднойчы апынуліся мы.

На Мядзельшчыне жыў аматар і нястомны прапагандыст беларускай літаратуры, настаўнік Сваткаўскай школы Мікола Пашкевіч. Яго добра ведалі многія нашы пісьменнікі, якіх ён запрашаў на літаратурныя выступленні.

Аднаго разу ён запрасіў на сустрэчу аўтарскі актыў, што групуецца вакол «Маладосці». Рэдакцыя даручыла мне дамовіцца з маладымі паэтамі, якія здолелі б выехаць на гэтую сустрэчу.

Апошнім вераснёўскім ранкам, напярэдадні дня настаўніка, са Сваткаў да нас прыехаў на грузавіку завуч школы.

Я пацікавіўся ў яго, на які час запланавана наша выступленне. Ён неяк няпэўна адказаў, маўляў, прыедзем і на месцы вырашым.

Рыгор Барадулін, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка і я залезлі ў кузаў , засланы свежаабмалочанай пшанічнай саломаю, і рушылі ў дарогу.

Не паспелі ад'ехаць ад Мінска з дзесятак кіламетраў, як завуч звярнуў грузавік у маляўнічую мясціну і прапанаваў трохі «адагрэцца» ад зябкага восеньскага ветру, што наскрозь праймаў нас у кузаве. Такія часовыя прыпынкі з «адаграваннем» у дарозе паўтараліся тройчы.

Калі, нарэшце, мы пад'ехалі да школы, я, збянтэжаны, разгубіўся і не ведаў, што рабіць. На школьным двары стаялі па два-тры паралельныя класы, на чале з класнымі кіраўнікамі.

Аказалася, што ў такім становішчы яны прастаялі каля дзвюх гадзін, пакуль дачакаліся «цёпленькіх» даўгачаных гасцей.

Ад сораму я гатоў быў праваліцца скрозь зямлю.

Мы, вядома, выступілі перад вучнямі. Дый позна ўвечары наладзілі яшчэ вялікую літаратурную сустрэчу з жыхарамі мястэчка Будслаў. А назаўтра разам з настаўнікамі Сваткаўскай школы хораша адзначылі іх прафесійнае свята. Толькі засталіся незразумелыя паводзіны завуча школы. Ці то ён загадзя надумаў асараміць нас перад вучнямі і настаўнікамі? Ці то гэткім чынам раўніва адпомсціў свайму калегу, аматару літаратуры, які запрасіў нас на сустрэчу?..

Непрыемны асадак ад таго пачуцця, якое ўзнікла ў мяне, калі я ўбачыў на школьным двары выстраеныя класы, на чале з іхнімі кіраўнікамі, назаўсёды застаўся на дне маёй душы. Нібыта і я ў нечым вінаваты перад сваімі малодшымі калегамі.

**

Пасля выхаду на пенсію я трынаццаць гадоў пражыў у Крыме. Штогод прыязджаў у Беларусь толькі позняй вясною і ўсё лета жыў на дачы. Мінск наведваў разы два ў месяц. Увесь гэты час мы з Уладзімірам сустракаліся рэдка.

Праўда, аднойчы, калі я жыў у ялцінскім Доме творчасці пісьменнікаў, Уладзімір працаваў у кактэбельскім, адкуль прыязджаў у Ялту. Мы тады разам наведалі магілу Максіма Багдановіча.

Другі раз Алесь Адамовіч, Уладзімір Караткевіч і я сеялі насенне васількоў на гэтай магіле, пра што я расказаў у вершы «Сімвалічная кветка», прысвечаным памяці Алеся Адамовіча.

Аднаго разу, калі позна ўвечары я прыехаў з дачы ў Мінск, мая малодшая дачка Наталля сказала, што на мінулым тыдні тэлефанаваў Караткевіч. Прасіў, каб я абавязкова патэлефанаваў яму. Я збіраўся тэлефанаваць заўтра. Але тое заўтра было 25 ліпеня 1984 года. У гэты дзень Уладзіміра не стала. Чаго ён тэлефанаваў мне, я не ведаю і ўжо ніколі не даведаюся.

# Нязгасная зорка нашай сцэны

***100–годдзе з дня нараджэння спявачкі Ларысы Александроўскай***

Я ўжо нейк дзесь згадваў: у свае маладыя гады я вельмі быў да ўсяго дападны. Мне найперш карцела ведаць пра ўсё, што было да мяне. От гэтая прага ведаў і прывяла мяне ў 1977 годзе і да народнай артысткі СССР Ларысы Пампееўны Александроўскай.

Была яна ўжо тады слабая, хворая. Ляжала ў лячэбніцы. Але на выхадныя дні вырывалася дадому. «Усё роўна, – казала яна, – апрача дзяжурнага, нікога з дактароў не будзе. То што там мне ляжаць?»

Яе брала задуха. Вадзілі ў бокі вадуны. Гаварыць ёй было цяжка, і я прапанаваў адкласці нашу гутарку на лепшыя часы. Яна запярэчыла: «Лепшых часоў не будзе... Будзем гутарыць зараз... Як атрымаецца, так і будзе!..» Пераадольваючы спазму задухі, яна парывіста апавядала пра свае маленства, пра сваіх дзядоў, далёкіх продкаў... Распавядала пра кожнага з іх годна і з павагаю...

– Дзед мой, Васіль, – апавядала яна, – служыў на чыгунцы... Сцэпшчыкам... Патрапіў два разы ў крушэнне. Раз ногі пакрышыла... То надта цікавую фігуру меў: адна нага назад, другая ўбок... Звалі яго Мікалай. Пражыў 98 гадоў. Бабка – сірата. Гадавалася ў прытулку пры касцёле. Дык вось, яе ў манашкі рыхтавалі... Але як толькі яна падрасла, дзед яе выкраў... От якое каханне было! Мелі яны з дзедам дзесяць дзяцей... І тата мой, Пампей, таксама на чыгунцы служыў. У якойсьці канторы пісцом. Меў ён чатыры класы адукацыі. Але з прыроды вельмі кемны ўдаўся. Любіў фізкультуру, спорт. Займаўся дужаннем. Яго лепшымі сябрамі былі асілкі Крылоў, Лурых... Бывала, возьмуць пудовую гіру, стануць па кутках і давай яе кідаць адзін аднаму. А гіры тыя пудоўкі! Займаўся французскай барацьбой. Да ўсяго ж яшчэ і заўзяты паляўнічы. Любіў матэматыку. Усе задачы нам даваў. Меў ён і друкавальную машынку. Дзе ён яе папаў ... не ведаю...

Ларысе Пампееўне вельмі хацелася, каб я ўявіў стары Мінск – Менск і тыя мясціны, пра якія яна мне распавядае. Таму зрэдку робіць схемы паасобных сядзібаў:

– От тут, дзе дом, у якім я зараз жыву, і была вуліца Правіянцкая. Якраз на куце гэтай вуліцы калісь мясцілася дзядулева сядзіба.

### Згадкі пра маленства

– Мы жылі не толькі ў Мінску, – распавядала далей Ларыса Пампееўна. – Часта ездзілі ў Свіслач. Там жылі мамiны сёстры. То я ведала з маленства і вясковае жыццё. Згадваецца... У Свіслачы ладзілі канцэрт. Папрасілі выступіць і нас, дзяцей. Я падрыхтавала байку і верш. Мой двaюрадны брат – Кірылка – толькі верш... Прачытаў... Яму паапладзіравалі, папрасілі, каб яшчэ што прачытаў. А ён больш нічога не ведаў, але выйшаў на сцэну і сказаў: «Больш я вам чытаць нічога не буду... Але загадаю адну загадку... А вы паспрабуйце яе адгадаць». І пачаў ён сваю загадку загадваць:

«Пастух перавозіў на пароме статак авечак цераз возера. А на тым возеры была выспачка. «Дай, думае ён, там свае авечкі папашу». Падагнаў паром да вострава, высадзіў авечкі... Хутка ўзняўся вецер, і паром знесла... Забедаваў небарака-пастух... Ніхто ж не ведае, дзе ён. А тут есці хочацца. Носіцца па тым востраве і не ведае, што яму рабіць... Вось я і пытаюся ў вас, – звяртаецца ён да публікі, – як пастушку выбрацца з вострава?...»

Сказаў і на фельчара глядзіць. А ён, як начальства, у першым радзе сядзеў... Заморгаўся фельчар нервова, не ведае, што сказаць.

«Здаюся! – кажа ён. – Не маю чаго сказаць...»

«Вось і той дурань не ведаў чаго сказаць!» – выпаліў Кірылка і пайшоў са сцэны.

У зале смех, вядома. Гэта ж трэба такое даўмецца сказаць... А было таму Кірылку не болей як гадкоў пяць-шэсць...

Ларыса Пампееўна шчыра, праз задышку, усміхаецца.

– Наша сям'я ўся была музычная: у нас усе пелі, усе танцавалі, усе ігралі. Мандаліна ў нас была, балалайка. Я ніколі не расставалася з гітараю. Бывала, куды ні іду ці еду – у адной руцэ гітара, у другой кошка... Вельмі любіла гітару... Калі была яшчэ малая, дык пальцаў не хапала, каб струны ладзіць: караткаватыя былі... Дык я давай іх выцягваць... Баліць, а я выцягваю... Каб не так балела, дык маслам змазвала. Голас я мела добры, і мяне кожнага разу ўсе прасілі: «Ларачка, паспявай!» – і я спявала, пела і часта кружылася ў танцы. Бывала, зусім яшчэ маленькая ўстану з пасцелі і пачынаю кружыць пад воплескі сястры. Кружуся, аж пакуль не стамлюся, не знясілю. Часта ладзілі канцэрты. Помню, ладзілі раз канцэрт у пажарным гаражы. Між іншым, мой тата належаў да пажарнага таварыства. На сцяне ў нас заўсёды, помню, вісела пажарная каска. Там, дзе цяпер Дом афіцэраў, была архірэева царква. А ў скверы, пры ўваходзе, стаяла пажарная каланча. Дык вось, бывала, як зазвоняць у гэтую каланчу, дык ён падхопіцца сярод начы, схопіць сваю каску і на звон бяжыць.

– Дзіцячыя гады мае, маленства і юнацтва, за выключэннем нашага бежанства, прайшлі ў Мінску, і я добра памятаю стары горад...

– Пытаецеся, дзе была Белацаркоўная? Я добра яе памятаю... Гэтая вуліца праходзіла там, дзе зараз дамок РСДРП... Адсюль яна пачыналася, ішла паўз рэчку і выходзіла да Траецкай гары. Памятаю, на скрыжаванні Захараўскай і Белацаркоўнай стаяў вялікі крыж. Крыху вышэй ад таго месца, дзе цяпер штаб БВА, расло вялікае дрэва, а да яго быў прыкуты вялікі жывы арол... Для чаго? Пэўна, для забавы...



### Такая настаўніца нам не трэба

– Першая імперыялістычная вайна выгнала нашу сям'ю з Мінска ў Петраград. Пасля вяртання з Петраграда паўстала пытанне: нешта трэба рабіць, за нешта трэба рукі зачапіць. Але за што? Пайшла ў Савет Народных Камісараў, – згадвала Ларыса Пампееўна. – Накіравалі мяне ў Старыя Дарогі. Прыехала... Людзей назбіралася поўная школа: сяляне, дзеці... Расказалі крыху пра мяне. Пачалі вырашаць, да каго на кватэру паставіць.

Адна кажа:

– Да мяне!

Другая пярэчыць:

– Не, да мяне. У цябе мужык прыкладваецца да чаркі, дык ёй у цябе будзе няўклюдна...

Пасля пачалі вырашаць, у каго я павінна сталавацца. І зноў дзесяткі прапаноў... Раптам нехта кажа: «Мы чулі, што наша вучыцелька песні спявае. Мо б як і нам заспявала?» Ну, што рабіць? Падцягнула я бліжэй піяніна – сабралiся ў нейкім маёнтку. Заспявала адну беларускую песню, другую. Паслухала мяне вясковая грамада дый і кажа: «Не, нам такая настаўніца не трэба. Такая настаўніца павінна жыць у горадзе і сама вучыцца. Нам трэба простая вучыцелька... А гэтая хай у горад едзе і сама спявае».

І выправілі мяне назад, у горад. Перaспала я ноч. А назаўтра да свае фурманкі з сенам. А там ужо людзі. «Ой, мая ты душачка, – кажа адна, – ты ўжо спявай, дый нас не забывай... А каб ты, мая дзяўчынка, зусім не схуднела, дык мы табе ў мяшочак бульбы насыпалі».

От гэтак народ выправіў мяне ў песні. Гэтак з таго моманту я стала артысткаю. Народ мяне зрабіў спявачкай. Было гэта ў 1920 годзе. Ішоў мне семнаццаты год...

**Уладзімір СОДАЛЬ**

---

**Міхась КАЛЯСЯНЕЦ**

# Павевы кахання

**Позех лёсу**

*Т.С.*

**Коней шпорамі я падганяў -**
**рыссю коні мае патрухалі...**
**Цэнь другога святочнага дня**
**мы ў пахмурнага Лёсу адкралі.**

**Сэрца з сэрцам - чароўны вянок!**
**Губы ў губы шапталі: Кахаю!..**
**Запаўночнай мелодыі ног**
**гукі ў шоргаце кожным шукаю.**

**Спраў будзённых распаўся ланцуг,**
**знік той клопат, што йшоў**
**чарадою...**
**З цiхай музыкай верціцца круг,**
**за якім - ты са мной. Я з табою!..**

**Толькі ж - ах! - Лёс азваўся гняўкі.**
**Коні скачуць назад - аж знямоглі...**
**Што ж ты, Божа!**
**Маленнем якім**
**прасвятліць твой няветлівы**
**погляд?**

**Прызнанне**

**Каханне славіць не мастак.**
**Але хай чуюць лес і поле,**
**што я цябе кахаю так,**
**як не кахаў ніхто ніколі.**

**Я ў марах жыў, нібыта птах,**
**узнёслы над высокай хмарай...**
**Цяпер жыву табою так,**
**як шчэ не жыў ніводнай марай.**

**Хвілінам тым цана пятак,**
**што без цябе, нібы ў змярцвенні...**
**Штораз цябе чакаю так,**
**як не чакаў Хрыстос збавення.**

**Аб чым мне думаць? Што рабіць?**
**І што мне карты наварожаць?..**
**Баюся я цябе згубіць,**
**Як не баяўся кары Божай!..**

**Каханне славіць не мастак.**
**Але хай чуе наваколле,**
**што я цябе кахаю так,**
**як не кахаў**
**ніхто**
**ніколі!**

---

**«Напачатку была Песьня...»**

**Пад такой назвай 17 лютага ў Доме Літаратара (вул. Фрунзе, 5) адбудзецца вечарына-прэзэнтацыя кампакт-дыску і новай кнігі вершаў**

**Эдуарда Акуліна**
***«Непрычалены човен»***

**У імпрэзе бяруць удзел Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Алесь Пашкевіч, Міхась Скобла, Рыгор Сітніца, Алесь Камоцкі, Кастусь Герашчанка, Лявон Тышкевіч**

Ласкава запрашаем усіх прыхільнікаў айчыннай паэтычна-песеннай творчасці.
*Пачатак вечарыны ў 18.30.*
*Уваход вольны*

Зьміцер ЗАХАРЭВІЧ

# Незамольнасьць крыўдаў

Зьміцер Захарэвіч – малады паэт. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Зараз забраны на афіцэрскую службу ў войска. Прапануем чытацкай увазе нізку вершаў паэта з падрыхтаванай да выданьня кнігі

### На Дзень Сьв. Валянціна

Ня вабіць цешыцца чужацкімі сьвятымі,
Калі забытыя багоў-прабацькаў імёны
І за нябёсамі пустымі
Дзядоўскі вырай нам замкнёны.

Зьнямелі нівы, гай, мурог –
Іх песьні даўна адгулі
Аб колішніх валадарох,
Што тут спрадвеку рэй вялі.

Цяпер крыжы ды курганы,
Як сьведчаньні пагаслай славы,
Падняліся па ўсім краі,
Але нат тых не заўважаюць

Адукаваныя, каб здатна
Служыць халопамі ў суседа,
А здрадай, шыбеніцай, гвалтам
Пазбавіў ён нас іншых ведаў.

Дзе Бацькаўшчына, Воля, Гонар –
Тры першых слова ў лемантарах,
Тры неабвергных аксыёмы,
Праўдзівай Троіцы выява.

На ёй тэстаманты расьпятых,
Бязь вестак згінулых гэрояў:
Ня скончваць барацьбы зацятай,
Ня зложваць зваяшчанай зброі,

Нададзенай перад стварэньнем Прайцом,
Якую гартавалі перамогамі дзяды,
Замест малітваў несучы ў агонь
Парэшткі вер наезьніцкім сьвятым.

* * *

Сьцёбаюць сьпёку бізуны дажджу,
На бруку пальмнеюць плямы
Ці то аблокаў, сьнячых пра зямлю,
Ці то пялёсткаў дрэў адкрасавалых.

Суняўся вецер кроплямі прыкуты
Да завугольляў вымерлага наваколья,
Дзень, паняволены смажўом прастуды,
Ледзь гучна за вакном скуголіць -

Хвосткімі ўдарамі расьсечаная скура:
З-пад панцыраў палеглых пляцаў
Ад помнікаў азызлых і панурых
Хутчэй наўпрочкі ручаі імчацца.

Ім гэтак важна некуды пасьпець,
Мажліва, ў гвалт чарговых экзэкуцый;
Брылі прыпынкаў узялі «на чэсьць»,
Нібы ў шыхце стаяць, не схалануцца.

Батогі ўлевы падаюць наўкос,
Грудзьмі аб шляк дазваньня біючыся -
Поўныя вочы стругжаных нябёс
На нас, спусьцелых, праліліся.

### «...Я шпацырую»

Стромкія вежы званіцаў -
Срэмкі ў небе вясновым.
Драпіны на аксаміце –
Драты злучкоў прашпэктовых.

Места – мясьціны дантавыя.
Абароненае насельніцтва
Ад небясьпекі скрайнасьцяў
Вошкаецца пасярэдзіне.

Гукі й колеры сьмягнуць,
Спачываюць комінаў рулі;
Разьняволена ды ўладарна
Пад імі я шпацырую.

Плавіць паўдзень камяніцы,
Мяшаючы іх з асвальтам.
Крышталь мацаваных крыніцаў
Спакушае вынайсьці сьвята.

Нясьпешна мінаю з усьмешкаю
Купкі даўнейшых знаёмых,
Для якіх за самотныя песенькі
Драбніцай засьмечваюць пераходы.

Разважаю наконт «няспраўдзілых»:
Ведама, я хіба пара –
Заблукаў паміж спраў сваіх
І шмарагдавых шатаў-штандараў.

Больш цікаўлю сваёю пэрсонаю
«Госпад» з таемнай паліцы,
Неразлучны са стромкасьцю звона
У веснавым аксаміце.

* * *

Каністры поўныя вады зь сьвянцонае крыніцы -
Каму на суп, каму на лекі, а каму напіцца,
Глыток на ноч - ня надта ўначы сьпіцца,
Бо нешта ные горай паясьніцы
І цягнецца рука перахрысьціцца –
Шукаюць паратунку баязьліўцы.
Адныя кінуліся подбегам маліцца,
Другія шчодра ахвяруюць на бажніцы,
Каб як спрычыніцца таксама, далучыцца,
Паспрабаваць грашыма адкупіцца
Ад страху нерасшыфраванай таямніцы:
Ці вернецца, ці зыйдзе на зямлю Збавіцель,
Ці не дастане раптам каштарысы,
За здрады звады ці ня змусіць расплаціцца?
Хітрэйшы хто, мкнучы ўхіліцца,
Стаў у чаргу па слугаваньне Хары-Бгават-Гіце
Альбо ў Нью-Ёрк, Варшаву, Прагу, Ніцу...

На сонцы срэбрам сталь іскрыцца –
Чым купеце цяпер клінкі крывіцкія,
Калі паўстануць іхных лёзаў бліскавіцы
Над чарапамі Юдаў, чужаніцаў?
Усіх, што баілі скарыцца,
Што нам лягчалі душы. Бы злачынцам,
З таго ўначы цяперака й ня сьпіцца,
Але няма ні троха таямніцы
І гэта кожны зь іх баіцца,
Бо прыйдзе павярнуць зямлю сваю Збавіцель,
Бо ён-такі дастане каштарысы,
За здрады, звады змусіць расплаціцца,
Тады ні адмаліць, ані ўпрасіцца,
Вадой з крыніц сьвянцоных не адмыцца!

* * *

Ты – толькі голас чужага ў слухаўцы,
Ты – лічбы ў нататніку
У адвеку лішняга ў трохкутніку,
Выбітыя атрамантам.

У іншай жывеш рэчаіснасьці,
Да якой прылучаюся,
Калі зь незьлічонае спробы вынайсьці
Прычыну ўсё ж атрымаецца.

Нумар дрыготкімі пальцамі
Набіраю – шпрыц наркаманам.
«Пераламацца» раілі,
Але «прыход» пачаўся вітаньнем.

Сьвядомасьць засыціць спакваля,
І ў краёх амарочных відзеж
Да інтанацый інтымных мая
Ты паўстаеш.

І не спустошыўся б да нематы,
Ды прытомнею змучаны
Трывала зацямленым:
Ты –
Толькі голас чужага ў слухаўцы.

* * *

Ядвабны кастрычнік тваіх валасоў
Спавіты тыпунёвым павуціньнем,
Сівер размовы пачуцьцёвае рызьзё
Зьлёгку гайдае ўжо пазначылайся стыняй.

Але ні дыхаць, ні агулам не лягчэй –
Ня верыцца, што ўсё яшчэ вярнецца,
Бо цеплыня колераў ліпеньскіх вачэй
За лёдам позірку навек мне застаецца.

Туман ягоны разгублена ўгару
Курэе – нерашуча пакідае аджылое?
Ставы абдымкаў зь нератамі рук
Цяпер, на дзіва, непатрэбнае, чужое.

Гнюсавіць каляндар – абрыдлы дзяк
Пра надыход растайнага сэзону.
Цяжар абставінаў й брахлівы задыяк
Несумяшчальнасьцю нашых прырод палоняць.

І досьвед хвалямі сшырэлае ракі
Прагноз на будычынь бліжэйшую плюскоча:
Лісьцем апалым поўніць памяці мяхі,
Чысьціць двары ад гною нутранае слоты.

Разьберымся. Не ўпершыню губляць.
Толькі насуперак сумніўнай звычцы
Часьцей хай дорыць нам уладарніца-зямля
Ядвабных валасоў тваіх кастрычнік!

* * *

Цішынёю ўбраная хата.
У мэлёдыі рытмаў старых
Ты прыходзь да мяне, як да брата,
Лёгкім поступам ветлай сястры.

Пра праменнае распавесьці,
Што спачыла ў тае цішыні,
Вокны гутаркай запавесіць –
Каго мне выглядаць яшчэ ў іх?

Хай кладуцца і голас, і словы твае
На разьдзёртыя шнары бінтом.
Чуеш, дровамі ў грубцы патрэсквае
У нецярплівым чаканьні вагонь?

Колькі ўжо задарма сатлелага!
Колькі скрыдлаў зламана вятром!
Толькі зноўку чаромхаю белаю
Сьнежань вёрсты засыпаў суздром.

Ды ня збойся адбітага сьледу –
Ён да брамкі праводзіць цябе.
Аб мінулым, аб нечым засьветным
Распытай, каб уцяміў глыбей.
Гасьцявала бязь ліку тут дрэні,
Нехта зьнес залатыя ключы,
І таму адамкнёныя дзьверы.
Няма словаў? Прыходзь – памаўчым.

У будзённыя альбо ў сьвята,
Прамарудзіўшы, без пары
Давядайся нявартага брата
Чыстым водбліскам ветлай сястры.

### Развітаньне Булака-Балаховіча

Бывай, краіна чорных хмар,
Я пакідаю твой абшар,
Ўжо не хвалюйся.
Бывай, краіна марных спробаў...
Ды не стрымаю свайго слова –
Яшчэ сюды вярнуся!

Бывай, краіна змрочных сноў,
Наезды, зьдзекі лютароў
Трываеш ты шторазу,
Адно тутэйшым гвалт і сьмерць
Чарговы «збаўца» зноў нясе,
Ня маючы адказу.

Напнуцца з крыўды вены ў скронях,
Бо колісь – аброць у далоні –
Вадзіў сам росамі каня.
У местах, вёсках, у гаёх,
На скрушных росстанях дарог –
Паўсюль - мая зямля.

На патаптаных сенажацях,
У кожнай модле ў кожнай хаце
Пакіну частаньку душы,
У сэрцах тых, што не задзьмулі
Віхуры дзён, у партызанскіх кулях,
Увесну каб гучэлі капяжы

Крыві варожай. Ёй бруіцца
Дарэшты па палёх крывіцкіх –
Ім літасьці не дачакацца.
А з нэтраў самых Белай Вежы,
Рвучы драты нам дзіўных межаў
Я буду з дапамогаю сьпяшацца.

Туды, дзе пушча прадзірае
Жалобу груганоўых зграяў,
Зімой накінуты зашчасна саван,
Туды, дзе мусім гаспадарыць,
Дзе сьпевамі хлапцоў паўсталых
Гудзе ўжо нашая Дзяржава.

...Ды зараз толькі сыпле сьнег,
Бы санітар, які кладзе
Бінты – часовы паратунак ад пакутаў.
Пад родным небам мы выгнанцы,
Але намераў рэзыстансу
Не зракуся!

# Вочы Дучэ

**Інфармацыйны рэжым дазваляе не саджаць апазіцыянераў у турму. Ён проста пазбаўляе іх голасу**

**Умберта ЭКО**

Нядаўна я адсвяткаваў дзень нараджэння. Разам са сваімі блізкімі, якія прыйшлі віншаваць мяне, я зноў успамінаў дзень свайго з'яўлення на свет. Нават прытым, што ў мяне выдатная памяць, таго важнага моманту я ўсё ж не памятаю, мне ўдалося аднавіць яго дзякуючы расказам маіх бацькоў. Падобна, што калі доктар прыняў мяне з чэрава маці і зрабіў усё неабходнае ў такіх выпадках, ён паднёс мяне да матулі, каб яна палюбавалася на вынік сваіх патугаў, і прамовіў: «Паглядзіце, якія ў яго вочы, ён падобны на Дучэ!» Мае родныя не былі фашыстамі, гэтак жа як не былі яны і антыфашыстамі, – падобна бальшыні дробнабуржуазнай праслойкі італьянцаў, якія ўспрымалі дыктатуру, як з'яву метэаралагічную: калі ідзе дождж, варта захапіць з сабою парасончык. Але калі маці і бацька пачулі, што ў іх немаўляці былі вочы Дучэ, яны, безумоўна, былі гэтаму рады.

З гадамі я стаў болей скептычны і сёння схіляюся да думкі, што той добры гінеколаг казаў гэтую фразу ўсім маці і бацькам, – калі я гляджуся ў люстэрка, мне хутчэй здаецца, што я болей падобны на мядзведзя грызлі, чым на Дучэ, але гэта не мае ніякага значэння. Мае бацькі тады былі шчаслівыя, даведаўшыся пра маё падабенства з Мусаліні.

Я задаюся пытаннем, якім параўнаннем мог бы такі ж доктар усцешыць парадзіху сёння. Што плод яе чэрава падобны на Берлусконі? У такім выпадку ён выклікаў бы ў яе непакой, а мо і дэпрэсію. Мяркую, што ніводзін сердабольны гінеколаг, узгадваючы найбольш значныя палітычныя постаці Італіі, не стане лашчыць слых парадзіхі тым, што яе дзіця такое ж укормленае, як Фасіна, такое ж сімпатычнае, як Скіфані, такое ж разумнае, як Басі, і г. д. Добразычлівы гінеколаг хутчэй параўнаў бы народжанае дзіця з якім-небудзь папулярным тэлевізійным персанажам і сказаў, што ў немаўляці пранікпівыя вочы журналіста Бруна Веспа ці ўсмешка акцёра Крысціяна дэ Сіка.

Кожная эпоха нараджае свае міфы. У тыя гады, калі нарадзіўся я, міфам быў Дзяржаўны Муж, у эпохі сённяшняй міфам стаў **Муж Тэлевізійны**.

Улічваючы агульнавядомую культурную слепату левых, сцвярджэнне Берлусконі аб тым, што сёння ніхто не чытае газет, але пры гэтым усе глядзяць тэлевізар, было ўспрынята, як чарговы прыклад яго неразумных, здольных выклікаць шок, учынкаў. Але гэта не так, яго словы сведчылі хутчэй пра ганарлівасць, чым пра глупства. Калі скласці разам тыражы ўсіх італьянскіх газет, мы атрымаем дастаткова смешную ў параўнанні з тэлеаўдыторыяй лічбу. З улікам таго, што толькі некаторая частка італьянскай прэсы выступае з крытыкай цяперашняга ўрада, а ўсё тэлебачанне – RAI і «Mediaset» – агучваюць думкі ўлады, не застаецца ніякага сумневу ў тым, што Берлусконі мае рацыю: праблема палягае толькі ў кантролі над тэлебачаннем, а газеты могуць казаць усё, што прыйдзе ім да галавы.

Усе гэтыя перадумовы былі выказаны мною дзеля таго, каб зрабіць наступныя высновы: калі ў наш час дыктатура і можа ўзнікнуць, дык гэта будзе дыктатура інфармацыйная, а не палітычная. На працягу вось ужо болей за пяцьдзесят гадоў усе толькі і гавораць аб тым, што ў сучасным свеце - за выключэннем толькі некалькіх краін, якія развіваецца, – для здзяйснення дзяржаўнага перавароту няма неабходнасці карыстацца зброяй, дастаткова захапіць радыётэлевізійныя станцыі. Апошні, хто пра гэта яшчэ не ведае, гэта Буш – ён выклікае ўражанне кіраўніка краіны, якая развіваецца, але які з-за памылкі здолеў заняць пасаду прэзідэнта высокаразвітай дзяржавы.

Таму не варта памылкова сцвярджаць, што выказвацца пра «рэжым» Берлусконі нельга: маўляў, слова «рэжым» выклікае ў памяці рэжым фашысцкі, а сённяшняя сітуацыя ў краіне адрозніваецца ад той, якая была на працягу дваццаці гадоў праўлення Мусаліні. Рэжым – гэта форма кіравання, якая не абавязкова павінна быць фашысцкай. Пры фашызме дзяцей (і дарослых) прымушалі апранаць ваенную форму, пры фашызме адсутнічала свабода прэсы, а дысідэнтаў адпраўлялі ў канцлагеры. Інфармацыйны рэжым Берлусконі не нагэтульні грубы і старамодны. Ён выдатна ўсведамляе, што кансенсус дасягаецца шляхам кантролю найбольш папулярных сродкаў масавай інфармацыі. У астатнім жа – нічога не каштуе дазволіць газетам быць нязгоднымі (да таго часу, пакуль іх нельга будзе купіць). Які сэнс распачынаць ганенні на якога-небудзь вядомага журналіста? Дзеля таго каб ён ператварыўся ў героя? Дастаткова проста не выпускаць яго на тэлебачанне.

Адрозненне паміж рэжымам «фашысцкім» і рэжымам інфармацыйным палягае ў тым, што пры фашысцкім рэжыме людзі знаілі: ні радыё, ні газеты не перадавалі нічога, апроч урадавых пастановаў, а слухаць лонданскае радыё было нельга, бо за гэта можна было патрапіць у турму. І менавіта таму пры фашызме людзі не давяралі газетам і радыё, таемна слухалі лонданскае радыё і верылі толькі тым навінам, якія даходзілі да іх шэптам, з вуснаў у вусны, у выглядзе плётак. Пры інфармацыйным рэжыме, калі, напрыклад, толькі дзесяць працэнтаў насельніцтва мае доступ да апазіцыйнай прэсы, астатняя частка атрымоўвае інфармацыю ад тэлебачання, якое знаходзіцца пад кантролем улады.

Пры такім рэжыме, з аднаго боку, распаўсюджваецца перакананне, што дазволены спрэчкі («газеты, якія выступаюць супраць урада, выходзяць, доказам гэтага могуць служыць скаргі Берлусконі на такія публікацыі, значыць свабода існуе»), з другога боку, існуе эфект рэальнасці тэлевізійнай навіны (калі з навінаў мы даведваемся, што якісьці самалёт упаў у мора, то гэтая навіна безумоўна сапраўдная, гэтак жа, як здаюцца сапраўднымі пантофлі загінулых, якія плаваюць на паверхні мора; пры гэтым не мае значэння, ці не з'яўляюцца гэтыя пантофлі, па выпадку,



пантофлямі ахвяраў папярэдняй катастрофы, скарыстанымі ў якасці паўторнага матэрыялу). Паколькі ўсё навіны прыходзяць да нас (да бальшыні), дзякуючы тэлебачанню, дык людзі вераць толькі тым навінам, якія ўбачылі ў тэлевізары (нібыта на свае вочы).

Няма неабходнасці, каб падкантрольнае ўладам тэлебачанне ўводзіла цэнзуру. Зразумела, верныя службе ўлады пастаянна адчуваюць спакусу накласці на што-небудзь цэнзуру, як гэта адбылося зусім нядаўна, з чаго былі зроблены высновы, што ў тэлевізійнай праграме абсалютна недапушчальна адкрыта лаяць кіраўніка дзяржавы (забываючы, па сутнасці, аб тым, што пры дэмакратычным рэжыме можна і трэба кепска адгукацца аб кіраўніку ўрада, бо інакш мы вымушаны мець справу з дыктатарскім рэжымам кіравання). Але размова ідзе аб найбольш прыкметных выпадках, якія можна было б назваць смешнымі, калі б яны не былі нагэтульні трагічныя па сваіх наступствах. Праблема палягае ў тым, што можна ўсталяваць пазітыўны інфармацыйны рэжым, калі будзе здавацца, што дазволена гаварыць усё. Дастаткова толькі ведаць, як падаць інфармацыю. Ніводзін з каналаў тэлебачання не стаў бы казаць пра тое, што лідэр апазіцыі Фасіна думае наконт таго ці іншага закона, бо гледачы вырашылі б, што ад іх нешта ўтойваюць, бо апазіцыя павінна недзе быць, прысутнічаць самастойна.

Насупраць, тэлебачанне пры інфармацыйным рэжыме карыстаецца рытарычнай фігурай, якая называецца «саступка». Прывядзем прыклад. Існуе каля пяцідзесяці доказаў «за» і пяцідзесяці доказаў «супраць» таго, каб трымаць сабаку. Довады «за» можна сфармуляваць так: сабака – лепшы сябар чалавеку, яна можа падаць голас, калі ў дом залезуць злодзеі, сабак любяць дзеці і г. д.

Доказы «супраць» выглядаюць наступным чынам: кожны дзень сабаку неабходна выгульваць, мы марнуем грошы на пакупку корму для яго і наведвання ветэрынара, сабаку нязручна браць з сабой у падарожжа і гэтак далей. Дапусціўшы, што мы хочам выказацца «за» набыццё сабакі, прыём саступкі будзе такі: «Сабакі сапраўды патрабуюць матэрыяльных выдаткаў, робяцца абузай і іх складана браць з сабой у вандроўкі (і тут мы сваёй шчырасцю заваёўваем сімпатыі праціўнікаў сабак), але варта памятаць, што яны заўсёды будуць для вас цудоўнай кампаніяй, іх любяць дзеці, сабакі напужаюць злодзеяў і гэтак далей». І гэта быў бы вельмі пераканаўчы доказ на карысць набыцця сабакі.

Выступаючы ж супраць чацвераногіх сяброў чалавека, вы маглі б прызнаць, што сабакі сапраўды добрая кампанія, любімая дзецьмі, могуць затрымаць злодзея, але адразу ж выступіць з супрацьлеглай аргументацыяй: і тым не менш, сабакі робяцца абузай, патрабуюць выдаткаў на сваё ўтрыманне, яны – цяжкая праблема ў часе паездак. І гэта будзе ўжо пераканаўчы аргумент на карысць таго, што сабаку лепш не заводзіць.

Менавіта такім чынам і дзейнічае тэлебачанне. У часе абмеркавання якога-небудзь закона спачатку аб'яўляюцца яго палажэнні, потым слова даецца прадстаўніку апазіцыі з усімі яго аргументамі супраць. Пасля гэтага з'яўляюцца прыхільнікі ўрада і выказваюць станоўчыя доказы. Вынік абмеркавання лёгка зразумець: выйграе заўжды той, за кім застаецца апошняе слова. Калі ўважліва глядзець усе выпускі навінаў, можна пераканацца ў тым, што пасля аб'яўлення якога-небудзь праекту прыхільнікі ўрада ніколі не выступаюць першымі, перад членамі апазіцыі. Заўсёды адбываецца наадварот.

Пры інфармацыйным рэжыме няма ніякай патрэбы ў тым, каб змяшчаць апазіцыянераў у турму. Дастаткова толькі прымусіць іх маўчаць, не карыстаючыся пры гэтым цэнзурай, а даючы ім магчымасць першымі выказаць свае меркаванні.

Дык якім чынам трэба дзейнічаць у выпадку, калі вы жывеце пры інфармацыйным рэжыме і ведаеце, што дзеля таго, каб нешта зрабіць, трэба мець доступ да сродкаў інфармацыі, а ў дадзенай сітуацыі менавіта яны і знаходзяцца пад кантролем?

Да таго часу, пакуль апазіцыя будзе не ў стане знайсці вырашэння гэтай праблемы і будзе працягваць блытацца ва ўнутраных супярэчнасцях, рэжым застанецца пераможцам. Падабаецца нам гэта ці не.

*El Pais*

# ВОРАГ

Эрых Марыя РЭМАРК

**Пра перакладчыка.** Арцём Арашонак жыве ў Віцебску. Вучыцца на 5-ым курсе універсітэта. Перакладае з нямецкай творы Бёля, Рэмарка, Ніцшэ, Фрыда, Бадмэрсгофф, Яндля, піша хайку. У фантастычнай бібліятэцы (там сабрана звыш 120.000 казак, мітаў; г. Вецлар, Германія) Арашонак заснаваў палічку беларускіх казак. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Натальлі Арсеньневай

Калі я спытаў майго школьнага таварыша Людвіка Браера, якая самая помная падзея вайны засталася ў ягонай памяці, чакаў, што пачую пра Вердун, Зомэ альбо Фландрыю; бо ён быў у найгоршыя месяцы на ўсіх трох франтах. Але замест гэтага распавёў мне наступнае.

Не самае жыццёвае, але запомнае мне ўражанне пачынаецца тым, як мы пакінулі маленькую французскую вёску далёка за лініяй фронту ў спакоі. Мы размясціліся на вельмі няўдалай мясцовасці, дзе агонь артылерыі быў настолькі дыхтоўны, што нам нічога не заставалася рабіць, як адступаць, бо мы неслі вялікія страты і мусілі збірацца з сіламі.

Быў прыгожы жнівеньскі тыдзень, цудоўнае біблейскае лета, і гэта ўсё ап'яняла нас, як добрае залацістае віно, якое мы знайшлі каторага разу ў сутарэннях, у Шампані. Мы падпалі пад дэзінфекцыю; некаторыя з нас хадзілі ў чыстым адзенні, іншыя грунтоўна кіпяцілі свае кашулі на невялічкім вогнішчы. Паўсюль панавала атмасфера чысціні, цудадзейства, якое ведае толькі запэцканы брудам салдат – радаснае пачуццё, бы суботні вечар тымі далёкімі мірнымі днямі, калі мы дзецьмі купаліся ў вялізнай ванне, а матуля прыносіла з шафы бялізну, ад якой цягнула моцай, нядзелькай ды пірагамі.

Ты ж ведаеш, што гэта не байка, калі я кажу, што адчуванне адыходу жнівеньскіх вечароў было салодкім і разлівалася па ўсім целе. Салдатам па-іншаму ад астатніх людзей пачынаеш ставіцца да прыроды. Усе гэтыя тысячы забаронаў, перашкодаў і прымусаў цьмянелі перад цяжкім, жудасным існаваннем на краі смерці, а ў хвілі замірэння, у дні спакою часам прамільгне думка пра жыццё, рэальнасць праходзіць, ды шчыра радуешся, што бачыш усё гэта, што можаш дыхаць і вольна рухацца.

Поле ў апошніх промнях сонца, блакітныя шаты, шапаценне таполяў, чысты струменьчык вады былі невыказнай радасцю; але ва ўсім гэтым глыбока таілася, як бізун, як дзіда, пякучы боль ведання, што ўсё гэта праз пару гадзін, праз пару дзён пройдзе, мусіць змяніцца на застылы пейзаж забітых. І гэтае пачуццё, так дзіўна сплеценае са шчасця, болю, меланхаліі, тугі, самоты і безнадзеі, было звычайным досведам салдата ў спакоі.

Пасля вячэры мы пайшлі з таварышамі недалёка ад вёскі. Няшмат гаварылі. Упершыню за апошнія некалькі тыдняў мы былі задаволеныя і грэліся ў касых промнях сонца, якія ішлі нам проста ў твар. Так нарэшце дайшлі да невялічкага, абнесенага агароджай будынку закінутай фабрыкі пасярод пустэльні, каб выставіць вартавыя пасты. Двор быў поўны палоннымі, якія чакалі на выпраўку ў Нямеччыну.

Вартавыя прапусцілі нас без затрымак, і мы змаглі агледзецца. Тут месцілася каля сотні французаў. Яны сядзелі і ляжалі, палілі цыгарэты, размаўлялі ці драмалі. Гэта адкрыла мне вочы. Да гэтага часу я меў толькі кароткія, павярхоўныя ўяўленні – частковыя і схематычныя - пра мужчын, што абаранялі варожыя акопы. Мабыць, каска, што на імгненне з'яўлялася над краем бруствера; рука, якая нешта кідала і зноў знікала; шматок шэра-блакітнай матэрыі, абрыс, які падскокваў у паветры – амаль абстрактныя рэчы, якія падчэквалі за кулямётным агнём, за гранатамі і калючым дротам.



Тут я ўпершыню пабачыў палонных, даволі шмат, якія сядзелі, ляжалі, палілі – французы без зброі.

Раптоўны шок ахапіў мяне; у той жа час я мусіў смяяцца з сябе. Мяне шакавала, што яны былі гэткімі ж людзьмі, як і мы. Але было відавочна – ведае Бог – што я проста ніколі пра гэта не думаў. Французы? Гэта былі ворагі, якіх неабходна знічтожыць, бо яны жадалі знішчыць Нямеччыну. Але мне ў той жнівеньскі вечар адкрылася непрыхаваная таямніца, магія зброі. Зброя змяняе людзей. І гэтыя бяскрыўдныя таварышы, гэтыя рабочыя фабрык, памочнікі, гандляры, шкаляры, якія, скораныя лёсам, ціха сядзелі ў двары, у адзін момант зрабіліся б ворагамі, калі б займелі зброю.

Першапачаткова яны не былі ворагамі і перад тым як атрымалі зброю. Гэта прымусіла мяне задумацца, бо я ведаў, што ўласная логіка была не зусім правільнай. Мне здавалася, што зброя схіляла нас да вайны. У свеце было столькі зброі, што яна ўзяла верх над чалавекам і ператварыла яго ў ворага...

І шмат пазней, у Фландрыі, назіраў я тое ж самае: падчас лютавання рэальнай бойкі людзі практычна зводзіліся на нішто. Зброя спрачалася паміж сабой у шалёнай лютасці. Як чалавеку трэба ведаць: нават тады, калі б усё паміж зброяй было мёртвым, зброя давяла б да вынішчэння Сусвету. Але тут, на фабрычным двары, я бачыў гэткіх жа людзей, як і мы. І ўпершыню зразумеў, што змагаюся супраць ЛЮДЗЕЙ; людзей, якія роўна з намі былі ачмураныя моцнымі прамовамі і зброяй; людзей, жанчынаў і дзяцей, бацькоў, што мелі працу, якія, магчыма, калі мае думкі перадаюцца на адлегаласці, прачнуцца, агледзяцца і спытаюць: «Браты, што ж мы робім? Што ж гэта?»

Пару тыдняў пасля мы зноў апынуліся ў зацішшы. Французская лінія фронту пралягала блізка ад нашай, але пазіцыі былі добра ўмацаваныя, і акрамя таго, мушу сказаць, ніякай слабіны. Акурат а сёмай, раніцай, артылерыя абменьвалася парай стрэлаў на знак прывітання; у абед зноўку быў невялічкі салют і дзесьці пад вечар звыклае замірэнне. Мы прымалі сонечныя ванны перад нашымі бліндажамі і адважваліся нават здымаць боты перад сном.

Аднойчы на другім баку Нічыёландыі (Нічыёкрайны) над бруствeрам з'явілася шыльда, на якой было напісана: «Attention!» Можаш сабе ўявіць, як здзіўлена ўпетрыліся мы ў яе. Потым мы ўрэшце прыйшлі да высновы, што яны жадалі нас толькі папярэдзіць: будзе асаблівы агонь артылерыі, па-за звыклай праграмай. Мы былі напагатове па першым жа выбуху схавацца ў нашых умацаваннях.

Але ўсё засталося ціха. Шыльда знікла. Потым, праз некалькі секундаў з'явілася рыдлёўка, на канцы якой мы здолелі пазнаць вялікі пачак цыгарэтаў. Адзін з нашых таварышаў, які нешта петрыў у мове, вывеў на планшэтцы слова «Compris». Мы ўзнялі планшэтку вышэй. Замахалі з усіх бакоў пачакамі цыгарэт. І мы замахалі планшэткай у адказ. Потым узняўся белы кавалак матэрыі. У спешцы мы схапілі з каленяў обер-яфрэйтара Бюлера кашулю, якую ён чысціў ад скочак, і далі ёю знак.

Праз пэўны час узнялася белая ануча на другім баку, а за ёй – каска. Мы замахалі кашуляй мацней, пакуль скочкі не пачалі дажджом падаць з яе. Рука, у якой быў пакет, пацягнулася наперад. А потым адзін мужчына павольна праціснуўся праз калючы дрот. На руках і каленах поўз ён да нас, пры гэтым час ад часу ўзмахваў насоўкай і нервова смяяўся. Дзесьці на сярэдзіне нічыёй тэрыторыі ён спыніўся і пакінуў пакет. Паказаўшы на яго некалькі разоў, салдат паківаў ды папоўз назад. Гэта прывяло нас у незвычайнае хваляванне. Спалучанае з амаль юнацкім адчуваннем рабіць нешта забароненае, пачуццём даць некаму пстрычку, і проста пажада дайсці да добрых рэчаў, якія ляжалі тут перад намі, было подыхам свабоды, незалежнасці, трыумфу над суцэльным механізмам смерці. Такое ж пачуццё меў я, калі стаяў сярод палонных, быццам нешта чалавечае, поўнае перамогі мкнуцца ў простую ўяву пра «ворага», і я жадаў прыўнесці сваю частку да трыумфу.

Ліхаманкава адшукалі пару падарункаў, сапраўды шкадобныя рэчы, бо мы меней раздорвалі, чымсь таварышы на супрацьлеглым баку. Потым мы зноўку далі наш сігнал кашуляй і адразу ж атрымалі адказ. Павольна я выбраўся на паверхню; галава і плечы былі на прасторы. Гэта была, халера ясная, жахлівая хвіліна, магу табе сказаць, гэтак стаяць неабароненым над бруствeрам.

Пасля я папоўз наперад, і цяпер цалкам змяніліся мае думкі, быццам не было дарогі назад. Дзіўная сітуацыя апанавала мяне, я адчуваў, як моцная радасць перапоўнівала мяне; шчаслівы і ўсмешлівы, бег я на ўсіх чатырох. І пражыў я цудоўнае імгненне міру, адзінкавага, прыватнага міру, міру для мяне на цэлым свеце.

Я пакінуў свае падарункі, узяў французскія і папоўз назад. І ў гэты момант мір абрушыўся. Я зноўку адчуў, як сотні кулямётаў былі скіраваныя мне ў спіну. Мяне ахінуў невымерны жах, а пот ліў ручаямі. Але я дабраўся да акопу жывым і здаровым, ледзь пераводзячы дыханне.

Наступным днём я ўжо досыць прызвычаіўся да такіх рэчаў і паступова спрасцілася гэтае пачуццё. Больш не пасобку поўзалі да месца, дзе пакідаліся падарункі, а адначасова выбіраліся з нашых акопаў. Як два спушчаныя з ланцуга сабакі, паўзлі мы адно да аднога і абменьваліся падарункамі.

Калі ўпершыню зірнулі адзін адному ў вочы, то сарамліва ўсміхнуліся. Другі таварыш быў малады хлапчына, як я, мабыць, гадоў дваццаць. Можна было пабачыць у ягоным твары, як даспадобы ўсё гэта. «Bonjour, camerade»,– сказаў ён, але я быў так здзіўлены, што «Bonjour, Bonjour» сказаў, паўтарыўшы два ці тры разы, кіўнуў і паспешна завярнуў назад. У нас быў вызначаны час для сустрэч, а былы знак стаўся непатрэбным, бо абодва бакі прытрымліваліся няпісанай мірнай дамовы. А праз гадзіну мы зноў стралялі ўпустую, як і раней. Аднойчы іншы таварыш нерашуча працягнуў мне сваю далонь, і мы пацiснулі адзін адному рукі. Гэта было камічна.

У той жа час гэткія ж падзеі адбываліся і на іншых прамежках фронту. Галоўнае камандаванне атрымала за гэта ўзбучку і адразу ж прыняло загад, каб поўнасцю забараніць падобныя вылазкі. У некаторых выпадках праводзілі штодзённыя сходы, на якіх даводзілі пра варожую нянавісць. Але нам гэта не перашкаджала.

Аднойчы на фронце з'явіўся маёр і трымаў перад намі асабісты даклад. Ваяка быў вельмі рэўнасны і энергічны, сказаў нам, што мае намер застацца на фронце да вечара.

На бяду, размясціў ён свой пост блізу нашага выхаду і прыпаў да кулямёта. Ён быў вельмі маладым маёрам, калі глядзець па ўчынках.

Мы не ведалі, што рабіць. Не было магчымасці даць знак таварышам на тым баку; акрамя гэтага, мы думалі, што нас расстраляюць на гэтым самым месцы за тое, што мы маем справы з ворагам. Хвілінная стрэлка майго гадзінніка рушыла паступова наперад. Нічога не адбывалася, і здавалася, быццам усё вырашыцца паспяхова.

Бясспрэчна, маёр ведаў пра агульнае братэрства, якое ўсталявалася на ўсёй лініі фронту, але нічога пра тое, што мы тут прадпрымаем. Была чыстая няўдача, што яго паслалі сюды і далі гэтае заданне.

Я падумаў, ці мушу сказаць: «Праз некалькі хвілін нехта прыйдзе з таго боку. Мы не павінны страляць. Ён давярае нам». Але я не адважыўся, ды і што гэта вырашала, калі б я гэта зрабіў, магчыма, ён застаўся б там і чакаў, у той час далі б яму гэты шанец? Акрамя таго, Бюлер прашаптаў мне, што ён вылез ззаду бруствера і зрабіў кулямётам знак «Білет» (так сігналізуюць промах на стрэльбішчы) і яны адказалі. Яны зразумелі, што не павінны ісці.

На шчасце, быў пахмурны дзень, трохі накропваў дождж, насоўваўся змрок. Была чвэрць пасля назначанага намі для сустрэчаў часу. Паступова мы змаглі зноў дыхаць. Потым мой позірк раптам спыніўся, камяк стаў у горле, я хацеў крыкнуць, але не змог, атарапелы ад жаху ўпетрыўся на нічыю зямлю і ўбачыў, як з'явілася рука, а потым і ўсё цела. Бюлер высунуўся з-за брустверу і паспрабаваў адчайна даць папярэдні знак. Але было запозна. Маёр ужо стрэліў. З пранізлівым крыкам цела салдата апусцілася на зямлю.

Імгненне панавала незразумелая цішыня. Потым мы пачулі роў і бязлітасцівую страляніну. «Агонь! Яны наступаюць!» – крычаў маёр.

Потым і мы адкрылі агонь. Стралялі, каб пакінуць за сабой гэта імгненне, цэлы фронт заварушыўся, гаварыла зброя. І так працягвалася цэлую ноч. Да раніцы мы страцілі дванаццаць байцоў, сярод іх маёра і Бюлера.

З гэтага часу варожая нянавісць упарта працягвалася: не абменьваліся цыгарэтамі, а страты павялічваліся. Багата ўсяго адбылося з таго часу. Я бачыў, як памірала шмат салдат. Я сам быў забіты – я зрабіўся чэрствым і бясчуйным. Праходзілі гады. Але ўвесь гэты час я не адважыўся думаць пра той пранізлівы крык у дажджы.

**Пераклаў**
**Арцём АРАШОНАК**

# Чаму гурт «UR'IA» не трапіў на «Еўрабачанне»?





Не хочацца сурочыць, але наступны год абяцае быць вельмі напружаным для развіцця беларускай папулярнай музыкі – жанру, які ахоплівае самы вялікі пласт слухачоў, асабліва маладой яе часткі. Асноўная і вельмі заўважная тэндэнцыя апошніх часоў – імкненне з дапамогай тэлебачання, FM-эфіру правесці падмену расейскай эстрады, якая паўсюдна гучыць ў тэле- і радыёэфіры, на нешта іншае. Што ж прапануецца слухачам узамен папсы расейскага разліву?

Безумоўна, лагічна было б чакаць з'яўлення сапраўды нацыянальных узораў творчасці, якія б улічвалі і нашыя меладычныя і моўныя традыцыі – сапраўды беларускіх па духу і мове кампазіцый і песень. Але не, нам прапануюць тое, што можна без перабольшвання назваць беларускім сурагатам той жа расейскай эстрады, толькі значна больш нізкага гатунку. Канешне ж, на мове суседняга народа!

Пры гэтым адбываецца поўнае ігнараванне беларускамоўных выканаўцаў, адціскванне іх у андэграўнд, падполле. Гэтая тэндэнцыя вельмі красамоўна выявілася падчас арганізацыі «Первым национальным каналом» (менавіта такое напісанне яму найбольш пасуе) беларускага адборачнага тура да конкурсу «Еўрабачанне-2004», які адбудзецца ў Стамбуле. Па сутнасці, гэта першы прэцэдэнт «сілавога» вырашэння моўнай праблемы ў афіцыйным беларускім «шоу-бізнесе».

Але давайце ўсё па парадку. Для ўдзелу ў адборачным туры да фэсту «Еўрабачанне-2004» былі выбраныя 15 выканаўцаў, 14 з якіх спявалі свае песні на рускай ці англійскай мове, і толькі адзін гурт «UR'IA» прадставіў на суд слухачоў і журы беларускамоўныя творы. Але чаму ж гурт, які засяродзіў сваю творчую дзейнасць на выступленнях са сваімі апрацоўкамі беларускага фальклору за мяжою, вырашыў паўдзельнічаць у гэтым «папсовым» фестывалі. Пра гэта патлумачыў нам кіраўнік гурта «UR'IA» Юрась Выдронак:

«Звычайна гурт «UR'IA» не ўдзельнічае у конкурсах. Але для «Еўрабачання» мы вырашылі зрабіць выключэнне. Думаю, адзінае ў нашай гісторыі. Мы падумалі, што на «Еўрабачанні» ёсць магчымасць пазнаёміць вельмі вялікую аўдыторыю з тым унікальным матэрыялам, над якім мы працуем. А таксама пазнаёміць еўрапейскіх слухачоў з традыцыйнай беларускай культурай, з яе сучасным варыянтам і нашым гучаннем.

Мы прапанавалі журы песні з нашай новай праграмы «Развітанне з казой» – «Го-го-го, каза» і «У лузе, лузе». Гэтыя песні наш калядны падарунак беларускім слухачам. Бо ў гурта «UR'IA» не так шмат магчымасцяў выступаць на Радзіме!

Так, мы не ў захапленні ад гэтага фестывалю, але ў нас ёсць мара нешта змяніць, калі мы туды трапім. У той жа час, калі мы «праляцім» з «Еўрабачаннем», то з задавальненнем пакажам нашыя апрацоўкі беларускім слухачам. Да таго ж, у красавіку нас чакаюць у Стамбуле на іншым фестывалі – «Strictly Mundial Istanbul», дзе будуць граць каля 60 этнічных і авангардных гуртоў з усяго свету і мы будзем адзіныя прадстаўляць Беларусь».

Вось з такімі думкамі, марамі і пайшлі музыкі гурта «UR'IA» на старт фестывальнага марафону. Гэтая навіна стала адпраўным пунктам для новай цікаўнасці да творчасці гэтых музыкаў: іх зноў пачалі запрашаць на радыё і тэлебачанне (тэлеканал «Лад», «Кліпабойма»), пра музыкаў і іх звышарыгінальны мультмедыйны альбом «Веснавчуха» пачалі ўзгадваць і слухачы. Здавалася, што пры любой раскладзе, пры любым рашэнні журы музыкі будуць задаволеныя.

Але сілы, якія не хацелі б бачыць на тэлеэкранах беларускіх не па прапісцы, а па духу выканаўцаў, нанеслі свой удар: яшчэ да запісу адборачнага тура гурт «UR'IA» – нагадаю, адзіная беларускамоўная каманда ў спісе - быў пад надуманымі прычынамі выключаны з абоймы прэтэндэнтаў на перамогу. Безумоўна, шукаць вінаватых у гэтай сітуацыі немагчыма: кожны з бакоў мае сваю рацыю. Галоўны аргумент юрыдычнай службы «Первого национального канала» – непадпісанне дамовы аб аўтарскіх правах на творы гурта «UR'IA». Гэта сур'-ёзна. Але чаму тады знайшлося месца ў туры незаяўленаму раней гурту «MiLR»? Юрыдычныя фармальнасці тут не сталі перашкодай. Юрась Выдронак мае свой погляд на сітуацыю. Але не нашая мэта – шукаць вінаватых.

Мы прапануем прааналізаваць тую сітуацыю з галасаваннем, якая магла рэалізавацца, калі б гурт «UR'IA» ўдзельнічаў у туры. Уявіце сабе вагі: на адных шалях 14 выканаўцаў, якія спяваюць нешта з рэстаранным адценнем альбо кшталту «Самое сладкое место на теле будем искать мы с тобою в постели» (з рэпертуару ўдзельніцы адборачнага тура А.Гадук), і адзін гурт, які прапанаваў суперсучасную апрацоўку беларускай народнай песні. Рускамоўны поп-электарат вымушаны быў бы галасаваць за 14 выканаўцаў адразу і па тэорыі верагоднасці ўсе яны аказаліся б за бортам «Еўрабачання». Беларускамоўныя слухачы канцэнтравана б прагаласавалі за свайго аднаго выканаўцу, што гарантавала б ім перамогу. Але лёс склаўся так...

Тое, што адбываецца на тэлебачанні, заўсёды нагадвала «blac box» - «чорную скрынку», у якой нельга бачыць механізмы падзеяў, можна толькі здагадвацца аб іх тайных спружынах. Таму слухачоў, журналістаў многіх выданняў, у тым ліку і ў Internet-чатах, склалася ўражанне, што гэту раскладку зразумелі арганізатары адборачнага тура і вырашылі праблему пасвойму. Бо калі на «Еўрабачанне» паедзе незалежная ад дзяржавы каманда, дык навошта ўсе дзяржаўна-эстрадныя інстытуцыі, кшталту аркестра М.Фінберга і ўсяго раздзьмутага штату яго салістаў, ці «Хіт-моманту» з «Перакрыжаваннямі Еўропы»? Яны ж адмовяцца апранацца па схеме: верх – чырвоны, ніз – зялёны (у колер дзяржаўнага сцяга), як да гэтага апранулі Волечку Сацюк на дзіцячым конкурсе «Еўрабачанне»!

Безумоўна, цяпер арганізатары такіх адборачных тураў памылкі 2004 года не паўтораць. У іх будуць два варыянты выбару – альбо ніколі не дапускаць да ўдзелу беларускамоўных выканаўцаў, альбо для «віду» захоўваць парытэт беларускамоўных і іншамоўных выканаўцаў. І тое, і другое будзе доказам маёй здагадкі адносна лёсу гурта «UR'IA» на адборачным туры «Еўрабачання».

Што ж тычыцца сённяшняга стану гурта «UR'IA», то музыкі актыўна рыхтуюцца да свайго выступу ў Стамбуле: здымаюць кліпы, завяршаюць запіс свайго чарговага альбому «Фолк-энд-рол», які, упэўнены, стане сенсацыйным для беларускіх і еўрапейскіх слухачоў, як гэта адбылося з «Веснавчухай». Ну, а музыкам я параіў падзякаваць «Первый национальный канал» за бясцэнны вопыт для іншых выканаўцаў і неверагодную рг-акцыю, за якую іншым прыйшлося б прыплаціць «Нацыянальнаму»!

**P.S.** На выніках усеагульнага галасавання пераможцамі адборачнага тура «Еўрабачанне-2004» стаў дуэт «Аляксандра і Канстанцін». І гэта лепшы магчымы вынік. І хоць Аляксандра Кірсанава і Канстанцін Драпеза выйшлі на конкурс з англамоўнай песняй «Мой Галілей», слухачы іх лепш памятаюць па песнях «Арэхавая чаша» і «Пчолка». Так што жадаем пераможцам не забываць пра гэтую акалічнасць, калі яны выйдуць на сцэну «Еўрабачання-2004»!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

## Сабачыя правы

## Да Рок-каранцыі-2003

### *«Люстэрка» загучала. Дзякуючы гурту «ULIS»*

Вядома, што тэма люстэрка і цуда, якое адбываецца па той бок яго адлюстравання, даўно цікавіла творчых людзей. Многія з іх сваімі мастацкімі сродкамі (успомніце пісьменніка Люіса Кэрала) спрабавалі заглянуць за сівізну люстэркавай амальгамы і спазнаць той свет, у якім правае мяняецца месцамі з левым. Сваю версію феномена люстэрка і таго, што адбываецца па другі бок яго, прапанаваў вядомы беларускі рок-гурт «ULIS», які вынес на суд слухачоў свой дзевяты альбом з назвай «Люстэрка».

За сціплым яго афармленнем схаванае вельмі напружанае музычнае дзеянне. Слава Корань і яго таварышы па камандзе Аляксандр Быкаў (бубны) і Віктар Самарукаў (бас) уклалі максімум прафесіяналізму і энергіі, каб дыск здзіўляў, прымушаў гаварыць пра новую работу гурта як аб адным з лепшых альбомаў апошняга часу.

Асноўная акустычная зброя музыка - лідар-гітара Славы Кораня, якая напаўняе акустычную атмасферу запісу неверагоднымі каскадамі гукаў, акордаў і рыфаў, праз якія Слава імкнецца перадаць усе эмоцыі, думкі, закладзеныя ў тэкстах кампазіцый. Некаторыя песні альбома «Люстэрка» вяртаюць нас да «залатых» часоў Кораня-кампазітара. Думаю, слухачы гэта адчуюць, калі пазнаёмяцца з трэкамі «Зва-р'яцелы танцор», «Ты», «Уладар», «Lusterka», «Гэты народ», якіх слухачы, упэўнены, будуць лічыць аднымі з лепшых на дыску гурта «ULIS».

Здаецца, музычныя крытыкі хутка вызначаць тое, чаго са «стылістычных замесаў» больш у музыцы альбому «Люстэрка» – crossover, hardcore альбо традыцыйнага цяжкага року з авангарднымі ідэямі. Але як і ў мінулых працах гурта, у музыцы і вершах Славы Кораня парадаксальным чынам сінтэзуецца шматзначны сімвалізм і высокая энергетыка музыкі.

Галоўнае тое, што, нягледзячы на заўважны полістылізм, прыхільнікі ўсіх навамодных плыняў знойдуць на дыску блізкае сваім прыхільнасцям і густам. А Слава і яго гурт «ULIS» так і застануцца ў рамках абранага ім незалежнага стылю indie-рок.

Акрамя гэтага, на дыску прадстаўлены кампазіцыі на вершы Уладзіміра Караткевіча «Жаўранак», «Устану ранкам», больш дасканалыя рэмэйкі старых гітоў гурта «ULIS» «Краіна доўгай белай хмары», «Кругі на вадзе», «Падарожжа», а таксама каверы песень з рэпертуару легендарнага польскага гурта «AYA RL», якія музыкі падрыхтавалі і з поспехам выканалі падчас калядных выступаў гурта ў Польшчы.

Акрамя гукавога начыння, увагу патэнцыяльных слухачоў прыцягне і афармленне дыска, якое ажыцявіў дызайнер Віктар Корзун. Яно, як і музыка гурта, напоўнена сімвалізмам, алюзіямі і загадкамі. Так што, слухайце і ўглядайцеся ў магічнае адлюстраванне дыска «Люстэрка» гурта «ULIS». Яно падрыхтавала зусім новыя адкрыцці і пачуцці!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**



# 4 правілы шчасця

Шмат гадоў назад малады ў той час псіхолаг Рычард Уайсмэн з Хартфордшырскага універсітэта (Вялікабрытанія) зацікавіўся, чаму некаторыя людзі заўсёды аказваюцца ў патрэбны час ў патрэбным месцы, а іншыя пастаянна страчваюць свой шанец. Ён змясціў у буйных газетах аб'яву, заклікаючы пазваніць яму хранічных удачнікаў і няўдачнікаў. Адгукнуліся дзесяткі чалавек, і вучоны некалькі гадоў назіраў ход іхнага жыцця, рэгулярна браў у іх інтэрв'ю, прыцягваў да ўдзелу ў эксперыментах. Аказалася, што вырашальным фактарам поспеху ці няўдачы з'яўляецца агульны настрой, уменне карыстацца выпадкам.



Прыкладам можа паслужыць наступны эксперымент. Яго ўдзельнікам раздалі па газеце, папрасіўшы падлічыць, колькі ў ёй фотаздымкаў. На адной са старонак была надрукавана аб'ява буйнымі літарамі. З яе вынікала, што той, хто яе прыкмеціць, атрымае ўзнагароджанне. Прыкмецілі яго, канешне, удачнікі, а вечныя няўдачнікі прапусцілі паўз вачэй.

«Так адбываецца таму, што яны заўсёды адчуваюць сябе напружана, непакоіцца па дробязях, – лічыць прафесар Рычард Уайсмэн. – Няўпэўненасць у сабе пазбаўляе іх здольнасці прыкмеціць нечаканае. Яны канцэнтруюцца на адной мэце і ў выніку прапускаюць шанец».

Шчаслівчыкі болей расслабленыя і адкрытыя, з цікавасцю ўглядаюцца ў жыццё, а таму і бачаць шырэй. Яны прыслухоўваюцца да сваёй інтуіцыі, у іх заўсёды больш шае чаканне і ўпэўненасць у тым, што ўсё збудзецца.

Група добраахвотнікаў на працягу месяца пад кіраўніцтвам прафесара Уайсмэна займалася аўтатрэнінгам, выпрацоўваючы ў сабе новыя якасці. Вынікі перавысілі іх чаканні: 8 з кожных 10 чалавек убачылі, што іхнае жыццё пасяховае і што яны, у рэшце рэшт, проста шчаслівчыкі. І ўдача не прымусіла сябе чакаць. Рычард Уайсмэн вывеў чатыры простыя правілы для тых, хто вырашыць змяніць свой лёс. Вось што неабходна запомніць, каб стаць шчаслівчыкам:

**1. Прыслухоўвайся да інтуіцыі – яна часцей за ўсё падказвае правільна.**

**2. Будзьце адкрытыя для новага вопыту.**

**3. Хоць некалькі хвілін на дзень удзяляйце ўспамінам пра тое, што вам выдатна ўдалося.**

**4. Перад сустрэчай ці тэлефоннай размовай уявіце сябе шчаслівым, бо ўдача – гэта рэалізаваная вамі надзея на поспех.**

**Вольга НЯВЕРАВА**

# Знакі на далоні

Дэрматагліфіка – навука аб скураных узорах на пальцах і далонях. Мудрагелістыя лініі, ці дэрматагліфы, утвараюцца грабеньчыкамі, якія выступаюць над паверхняй скуры. Упершыню пра магчымасці скарыстоўваць гэтыя малюнкі для ідэнтыфікацыі асобы паведамілі англічане Г.Фулдс і В.Гершэль яшчэ ў 1880 годзе, і ўжо болей за сто гадоў адбіткі пальцаў скарыстоўваюцца крыміналістамі.



За апошнія гады навука падрабязна вывучыла інфармацыю, якую нясуць у сабе ўзоры на скуры. На нашых пальцах вучоныя выдзяляюць у самым агульным выглядзе тры тыпы ўзораў: завіткі, якія лічацца самымі складанымі, петлі і - найменей складаныя – дугі. Магчымасці вывучэння прыроджаных якасцяў і ўласцівасцяў чалавека па ўзорах на пальцах аказаліся карыснымі ў спартыўнай медыцыне. Супастаўленне малюнка адбіткаў пальцаў з параметрамі фізічнай актыўнасці дазволіла зрабіць высновы аб іх сувязі і з рэсурсамі арганізма ў цэлым. Высветлілася, напрыклад, што людзі з адносна простым малюнкам нават пры неязначных нагрузках працуюць амаль што на мяжы сваіх магчымасцяў. А вось індывіды з дзесяццю петлямі на пальцах складаюць ім поўную супрацьлеглась – яны рэалізуюць сябе як высокаэнергетычныя і высокарэактыўныя сістэмы пры звычайнай працы, але губляюць свае магчымасці пры экстрэмальных нагрузках. Наяўнасць завіткоў і петляў пакзвае на высокія адаптацыйныя магчымасці арганізма пры значных і нават экстрэмальных нагрузках.

Узоры грабеньчыкавай скуры закладаюцца на 13-ым тыдні ўнутрыўлонавага развіцця арганізму і ніколі ўжо не змяняюцца. Паколькі скура паходзіць з тых жа эмбрыянальных зачаткаў, што і нервовая сістэма, яе ўзоры адлюстроўваюць марфалагічную арганізацыю мозгу. А калі ацаніць тып нервовай сістэмы арганізму, дык можна ахарактарызаваць і яго тып у цэлым.

Вядомая і сувязь узораў на пальцах з асаблівасцямі характару і іншымі псіхалагічнымі ўласцівасцямі асобы. Людзі з малюнкам, у якім дамінуюць дугі, як правіла, недалёкія, упартыя, праўдзівыя. Затое не могуць пахваліцца добрым здароўем, дрэнна пераносяць спякоту, духату, алкаголь. Па назіраннях нейрафізіёлагаў, гэты від скуранога малюнку нярэдка сустракаецца ў начальнікаў рознага рангу, нефармальных лідэраў. Тыя ж, у каго ўзоры складаныя, з перабольшаннем завіткоў, – натуры, як правіла, адораныя, тонкія, але нярэдка схільныя да інтрыгаў, слабахарактарныя. Носьбіты петляў адрозніваюцца ўраўнаважаным, жыццярадасным характарам, а таксама выдатным здароўем.

І ўсё ж далёка не ўсе магчымасці дэрматагліфікі пакуль раскрытыя цалкам. Падрабязна вывучана пакуль што складанасць узораў на пальцах. Загадкавымі застаюцца, напрыклад, гэтак званыя радыяльныя петлі (звернутыя ў бок вялікага пальца), якія адрозніваюцца ад ульнарных (звернутых у бок мезенца).

Неразгаданымі застаюцца і ўзоры на другой і трэцяй фалангах пальцаў, на далоні. Магчыма, з часам прадказанні адметнасцяў асобы, выбар прафесіі і нават спадарожніка жыцця па далоні са сферы хірамантыі (прадказанняў па «лініях жыцця») ператворыцца ў цалкам навуковы прагноз.

**Таццяна БАЦЯНЕВА**

## Таямніцы

### Травы супраць СНІДу і птушынага грыпу

Вучоным з Тайланда ўдалося дамагчыся рэальных поспехаў у барацьбе са СНІДам сродкамі традыцыйнай медыцыны.

Па словах генеральнага дырэктара дэпартамента медыцынскіх навук каралеўства Самсонга Ругпоа, трава, якую мясцовыя жыхары называюць «панчакан», у ходзе лабараторных даследаванняў засведчыла сваю здольнасць спыняць распаўсюджванне віруса імунадэфіцыту чалавека. Прыгатаваны з травы экстракт таксама садзейнічае выпрацоўцы арганізмам антыцелаў. Адначасна эксперыменты, праведзеныя на жывёлах і добраахвотніках, не выявілі ніякіх супрацьпаказанняў да прымянення травы ў такіх мэтах. Трава панчакан , па словах спецыялістаў, расце ў Кітаі, Японіі і паўночнай частцы Тайланда.

Раней генеральны дырэктар дэпартамента развіцця тайскай традыцыйнай і альтэрнатыўнай медыцыны Вівай Чакевіват паведаміў, што чатыры віды іншых траваў могуць дапамагчы спыніць імклівае распаўсюджванне па Азіі віруса птушынага грыпу. Да іх адносяцца свеклавіца, белая камфара, расліна з мясцовай назвай «карыят», а таксама адно з рэчываў, якое ўтрымліваецца ў зялёным чаі.

«Свеклавіца і зялёны чай былі праверaны ў ходзе выпрабаванняў на жывёлах, – сказаў Чакевіват. – Пры лабараторных даследаваннях зялёны чай прадэманстраваў здольнасць перашкаджаць вірусу грыпу тыпа А і В трапляць у клеткі, узятыя з печані сабак». Гэтыя вынікі могуць абнадзейваць.

### Зямляне жывуць у сярэднім 48,5 гадоў

Сусветная арганізацыя здароўя (САЗ) ААН правяла падлікі сярэдняй працягласці жыцця ў розных краінах свету. Па сведчанні САЗ, тэрмін жыцця сярэднястатыстычнага беларуса складае 68,5 гадоў. Па гэтым паказчыку Беларусь з былых краінаў СССР саступае Эстоніі (70,1 год), Літве (69,2), Латвіі (69 год), але пераважае Расію (67,5 гадоў), Арменію (66,59), Украіну (66,33), Малдову (64,62), Таджыкістан (64,28), Узбекістан (63,9), Кіргізстан (63,56), Казахстан (63,38), Азербайджан (63,08), Туркменістан (61,1).

Даўжэй за ўсіх жывуць жыхары невялічкіх дзяржаваў Андора (83,48 гадоў) і Сан-Марына (81,33 гадоў). Трэцяе месца займае Японія (80,91),чацвёртае месца належыць гораду-дзяржаве Сінгапуру (80,29). Самы кароткі жыццёвы век маюць жыхары Батсваны (35,29 гады) і Мазамбіка (35,56).

Злучаныя Штаты Амерыкі займаюць у табліцы сярэдняй працягласці жыцця 47-е месца (77,4 гады). Даўжэй за амерыканцаў жывуць французы (79,2 гады), ізраільцяне (78,86), брытанцы (77,79) і немцы (77,78 гады).

### Спецложак для храпуноў

Даследнікі з універсітэта горада Гетэборга ў Швецыі разам з адной з дызайнерскіх фірмаў стварылі ложак, які павінен кардынальна змяніць да лепшага жыццё невыносных храпуноў і іхных ахвяраў.

Спецыяліст у галіне сну Карына Бломберг характарызуе адметнасці гэтага цуду: «Ложак спецыяльнымі датчыкамі злучаны з камп'ютэрам, які сочыць за сэрцабіццем, рытмамі дыхання, мышачнымі рухамі і гукамі храпу. Як толькі чуецца храп, камп'ютэр пачынае рэгуляваць вышыню ўзгалоўя, падымаючы галаву храпуна да той адзнакі, пакуль храп не спыняецца».

Па словах экспертаў, уздым узгалоўя дапамагае спыніць храп, не даючы языку западаць і перакрываць гартань, што і абумоўлівае характэрныя гукі храпу. Пасля спынення храпу ложак вяртаецца ў пачатковае становішча.

**News.Battery.Ru**

### Індыйскі гігант

Самы вялікі кактус на планеце расце не ў Мексіцы, а ў індыйскім горадзе Дхаравад. Уладальнік гіганта купіў яго на выставе кактусаў у 1990 годзе, тады расліна мела вышыню 10 сантыметраў і не абяцала нічога незвычайнага. Гаспадар пасадзіў кактус у сябе на двары і практычна забыўся на яго. Але расліна пацягнулася да сонца і даволі хутка стала 12-метровай, што зрабіла яе рэкардсменам Індыі, а калі вышыня кактуса перасягнула 22 метры, ён патрапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса. На думку спецыялістаў, росту кактуса спрыяюць выдатныя кліматычныя ўмовы, якіх няма на прарадзіме расліны.

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288-23-52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія ЛП № 397 ад 14.03.2001 г.
220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 91
Падпісана да друку 10.02.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.